НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 41 (782) 7 лістапада 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць што



## Топ-10 фактаў пра новыя станцыі метро

«Грушаўка», «Міхалова» і «Пятроўшчына». Старонка 6.

## Жанчыны з формамі

У Мінску прайшоў «Тыдзень моды». Старонка 9.

# Няма такой партыі

Прайшоў з'езд **«Белай Русі»**. **Старонка 3.**



**Аляксандр Радзькоў (злева) застаўся старшынёй «Белай Русі». Кветкі ўручае віцэ-спікер палаты прадстаўнікоў Віктар Гумінскі.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Тэндэнцыі**

### «Заробак павысілі, але ён аказаўся меншым»

Многія **бюджэтнікі за кастрычнік** атрымалі менш, чым за верасень.

Выбары прайшлі, і людзі засталіся без прэмій.

У інтэрнэце размясціў свой разліковы лісток малодшы навуковы супрацоўнік аднаго з інстытутаў Акадэміі навук. У сярэднім яго зарплата набліжаецца да трох мільёнаў, але ў кастрычніку не выйшла і двух.

«Залаты медаль, чырвоны дыплом, аспірантура... І за гэта 1.939.000 у кастрычніку. Усё разумею: бываюць цяжкія часы ў краіне, разруха ў арганізацыі, неналежная кваліфікацыя, няма замоваў. Але тут укалваеш, з-за кругазвароту паперак пыл не паспявае асядаць, і нават не папярэдзілі...», — бядуе чытач.

Кандыдату навук, які амаль 40 гадоў аддаў беларускай навуцы, налічана трохі больш — 2,75 мільёна. На іх навуковец павінен будзе жыць цэлы месяц.

«У падобнай арганізацыі (толькі аспірантура пакуль у працэсе) маю 1,3 мільёна. Уяўляю з якім цынізмам кіраўнік установы даваў палове нашых супрацоўнікаў 1% прэміі», — напісала на сайце nn.by чытачка Марыся.

«У настаўнікаў тое самае! — расказала «НН» педагог адной з мінскіх школ. — За кастрычнік не было ніякай прэміі. Бюджэтнікам заробак павысілі, а ён аказаўся меншым».

Сапраўды, 1 верасня, перад парламенцкімі выбарамі заробкі паднялі бюджэтнікам і вайскоўцам. Планавалася, што заробак па краіне ў бюджэтнай сферы складзе 3,2 млн рублёў. Выбары скончыліся, а гэтых грошай бюджэтнікі так і не пабачылі.

**Зміцер Панкавец**

**Палітыка**

### Апазіцыю аб'яднае Рада БНР?

На сустрэчы ў Вільні былі Сурвіла, Мілінкевіч, Барадач, Шушкевіч… **Старонка 3.**



**Гаспадарка**

### «Нацыяналізацыя? Я гатовы!»

Вытворчасць бялізны «Мілавіца» неўзабаве пераедзе з Мінска ў В'етнам. **Старонка 5.**



**Усяго патроху**

### Беларусь трапіла ў South Park

У чарговым эпізодзе беларускіх фермераў душаць бульдозерамі. **Старонка 8.**



**Культура**

### «Мястэчковае кабарэ»: Блакітны агеньчык 1930-х

Новы спектакль тэатра імя Янкі Купалы. **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Пераноc працоўных дзён

**На Новы год** чатыры дні адпачынку, на каталіцкія Каляды — тры.

Урад прыняў рашэнне аб пераносе працоўных дзён у канцы 2012 і ў 2013 годзе. Працоўны дзень з панядзелка 24 снежня пераносіцца на суботу 22 снежня, а працоўны дзень з панядзелка 31 снежня на суботу 29 снежня.

У 2013 працоўны дзень пераносіцца з серады 2 студзеня на суботу 5 студзеня, з пятніцы 10 мая на суботу 18 мая 2013.

Такім чынам, на каталіцкія Каляды выходныя складуць тры дні: 23–25 снежня (нядзеля-аўторак). На навагоднія святы — чатыры дні: з 30 снежня да 2 студзеня ўключна (нядзеля-серада). Выходныя на праваслаўныя Каляды складуць два дні (нядзеля-панядзелак 6 і 7 студзеня).

А пасля на Дзень Перамогі будзе аж 4 дні адпачынку.

У пастанове адзначаецца, што прадпрыемствы маюць права мяняць гэты графік з улікам сваіх патрэб.

СГ

Логіка ўлады

## Новым міністрам абароны Расіі стаў Шайгу

Анатоль Сердзюкоў **адпраўлены ў адстаўку** пасля шэрагу карупцыйных скандалаў.

Сердзюкова ў арміі не любілі. Ён не кадравы вайсковец, і генералы за вочы называлі яго «дырэктарам крамы». Тым не менш, яму ўдалося правесці шэраг істотных рэформаў, асабліва сістэмы гаспадарчага забеспячэння войска, наскрозь пранізанага карупцыяй. У канцы кастрычніка стала вядома праператрусы па справе аб махлярстве ў падкантрольным міністэрству абаронны холдынгу «Оборонсервис», раду дырэктараў якога Анатоль Сердзюкоў узначальваў да 2011 года.

Сяргей Шайгу быў губернатарам Маскоўскай вобласці, а да таго — папулярным міністрам па надзвычайных сітуацыях. Ён амаль не мае шанцаў на тое, каб стварыць канкурэнцыю Пуціну і Мядзведзеву, бо па нацыянальнасці ён тувінец. Гэта, здаецца, важны матыў для прызначэння вайсковага міністра ў Расіі, дзе кагэбісцкі клан Пуціна пабойваецца канкурэнцыі армейскага клана.

Папярэдні міністр таксама апрыёры не меў шанцаў стаць моцным лідарам, ён паходзіў з Пецярбурга, з бізнэс-колаў, і быў сваяком віцэ-прэм'ера Зубкова.

Мікола Бугай



Фотафакт



БЕЛТА

**Так выглядае прыз ад Лукашэнкі «за развіццё духоўнасці ў кінамастацтве». Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік уручыў яго на фестывалі «Лістапад». Такога падарунка Карэн Шахназараў дакладна ніколі не атрымліваў. Можа, хосьці з чытачоў патлумачыць, што азначае гэтая дзіўная статуэтка — крышталёвая, але з залатой цыбулінай?**

## Канада хоча стаць супердзяржавай

Краіна, якую раней называлі проста «шапкай ЗША», ставіць перад сабой амбітныя планы. Кансерватыўны ўрад Стывена Харпера падтрымлівае дух новага, нават трохі агрэсіўнага канадскага нацыяналізму. Амбіцыі грунтуюцца на выдатных эканамічных поспехах: па ВУП на душу насельніцтва Канада абагнала ЗША, канадскі даляр мацнейшы за амерыканскі. А галоўнае — другая па плошчы краіна свету Канада адкрыла і паспяхова распрацоўвае вялізныя радовішчы нафтавых пяскоў. Пацяпленне ж клімату прывядзе да таго, што стануць даступнымі карысныя выкапні канадскага Запаляр'я. Усё гэта надае 35-мільённай Канадзе энтузіязму — піша ў сваім артыкуле газета «Бостан глоб».

МБ

Рэкамендуем

## Ворк-аўт у Мінску, або Юнакі з пазіцыяй



Ім — 15–18 гадоў, яны не п'юць і не кураць. Яны адэпты street workout — новай субкультуры беларускіх спальных мікрараёнаў. Відэа.

**Чытайце на NN.BY**

### Сціслa

**А цэны ўсё растуць**

Цэны ў Беларусі за год вырастуць прыкладна на 20%. Гэта нашмат менш, чым у абвальным 2011-м, але ўсё ж па гэтым паказчыку наша краіна застаецца адзінай такой у Еўропе. У еўразоне рост цэн складае ўсяго каля 2,5%, у Расіі — каля 7%, а ва Украіне індэкс цэн не змяніўся.

**Дашкевіч будзе сядзець у Гродне**

Зміцера Дашкевіча даставяць у Гродзенскую турму № 1 ці 8 лістапада, паведамілі нявесце палітвязня.

**Польшча дабілася ад «Газпрама»**

зніжэння цаны на газ. Каб выбіць зніжкі, Варшава падавала ў Стакгольмскі трыбунал. Цана на газ для Варшавы складала аж 500 даляраў, тады як Нямеччына плаціла 394. Праз міжнародны трыбунал выбіла зніжкі ад Расеі таксама нямецкая кампанія E.ON. Цяпер тым жа шляхам пайшоў урад Літвы.

**31,7% беларусаў зрабілі прышчэпку**

На сёння ад грыпу прышчапіліся больш за 3 млн чалавек. Прычым больш за 99% з іх прышчапілі задарма, за грошы бюджэту. Платна вакцынаваліся ўсяго 12 тысяч чалавек.

**Пачнуць высяляць з-пад мяжы?**

Пракуратура Гродзенскай вобласці прапануе зрабіць больш жорсткім пакаранне кантрабандыстаў, якія жывуць каля граніцы: адсяляць іх у судовым парадку далей ад мяжы.

**Сапелка атрымаў прэмію**

Беларускага юрыста адзначыла Рада адвакацкіх аб'яднанняў і юрыдычных таварыстваў Еўропы. Нагадаем, што ў сакавіку 2011 у Паўла Сапелкі забралі правы займацца адвакацкай дзейнасцю. Гэта здарылася пасля таго, як ён абараняў палітвязняў Саннікава і Севярынца.

**Два чыгуначнікі скончылі жыццё самагубствам**

У Баранавічах забіў сябе 44-гадовы брыгадзір, а пад Оршай — 34-гадовы машыніст лакаматыўнага дэпо. Абодва кінуліся пад цягнікі.

СГ

### Самае чытанае за 31 кастрычніка — 6 лістапада

1. Новыя станцыі метро: топ-10 фактаў
2. 29-гадовы беларус з Горак стаў мільянерам у Маскве
3. Прэзідэнт Лір: у інтэрнэце з'явіўся постмадэрнісцкі раман пра Беларусь
4. Бойфрэнд Азаранкі зваліўся з 3-га паверха ў Парыжы
5. Дырэктар «Мілавіцы»: «Прыбытак прадпрыемстваў лёгка павялічыць у тры разы»
6. Футбаліст Марк-Фрэдэрык Адо: Дзмітрыя Паўлічэнку мы называлі Баця
7. Свежая серыя South Park пра Беларусь
8. На з'езд «Белай Русі» сабраліся 400 дэлегатаў — фоты
9. Станцыя метро «Пятроўшчына»: адкрыццё не для ўсіх
10. Людзі на балоце, рэальныя, сёння: рэпартаж са Столінскага раёна

# Апазіцыю аб'яднае Рада БНР?

**На сустрэчу прыехалі Шушкевіч, Мілінкевіч, Барадач, не прыехалі — Някляеў, Калякін, Пазняк, Саннікаў.**

Рада БНР — лідары беларускай эміграцыі — сабрала лідараў апазіцыі. Сустрэча адбылася ў Вільні 3 лістапада. З боку Рады БНР у ёй бралі ўдзел старшыня Рады Івонка Сурвіла і яе намеснік Сяргей Навумчык, а таксама Мікола Пачкаеў. З Беларусі прыехалі кіраўнікі большасці незалежных партый, вялікіх грамадскіх арганізацый. Большасці, але не ўсіх. Не было нікога ад «Гавары праўду», не было і Калякіна.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі — гэта сімвалічны пераемнік той БНР, што была створана ў 1918 і ў адказ на якую бальшавікі вымушаны былі ўтварыць БССР. Рада — гэта носьбіт дзяржаўнай легітымнасці. Аналагічныя ўрады ў эміграцыі мелі палякі, літоўцы і украінцы, пакуль гэтыя дзяржавы не сталі цалкам незалежнымі. У незалежнасць лукашэнкаўскай Беларусі эміграцыя не верыць, таму паўнамоцтваў не складала.

Але вернемся да нарады ў Вільні. Яна стала адной з першых сустрэч за агульным сталом прадстаўнікоў розных палітычных сілаў. Прычым гэты стол — і тое, што на ім — быў беларускім, арандаваным за беларускія, а не якой замежнай дзяржавы, грошы.

У выніку сустрэчы быў прыняты Мемарандум, дзе вызначаныя асноўныя кірункі супольнай дзейнасці.

Мемарандум падпісалі: Уладзімір Барадач (Аргкамітэт Рады Нацыянальнага Адраджэння), Вінцук Вячорка (Аргкамітэт «Беларускага Руху»), Аляксандар Дабравольскі (АГП), Мікола Дземідзенка («Малады Фронт»), Уладзімір Колас (Рада беларускай інтэлігенцыі), Вольга Карач (грамадзянская кампанія «Наш Дом»), Аляксандр Мілінкевіч (Рух «За Свабоду»), Станіслаў Шушкевіч (БСДГ), Аляксей Янукевіч (Партыя БНФ), ад імя Рады БНР — Івонка Сурвіла.



Рада БНР змагла сабраць людзей розных поглядаў. На фота: Уладзімір Барадач, Сяргей Навумчык, Станіслаў Шушкевіч.

Спадарыня Івонка адказала на пытанні «НН».

**«Наша Ніва»: Адкуль узнікла ідэя падобнай сустрэчы? Ці Рада БНР яе ініцыявала?**

**Івонка Сурвіла:** Так, гэта была ініцыятыва Рады, мы даўно мелі намер спаткацца з лідарамі беларускіх партый і арганізацый. Паасобку сустракаемся рэгулярна, і ў Еўропе, і на амерыканскім кантыненце, а разам — бадай што ўпершыню. Праўда, у 2008 са шмат якімі лідарамі мы былі ў Страсбургу, дзе адзначаліся ўгодкі ўтварэння БНР, але тады нас усіх запрашаў Еўрапарламент. Цяпер жа ініцыятарам выступіла Рада БНР. Як трапна выказаўся Уладзімір Колас, «беларусы сабралі беларусаў».

**«НН»: Адзначаецца, што сустрэча адбывалася дзеля «выпрацоўкі захадаў у справе забеспячэння абароны незалежнасці Беларусі». Вы ўсё яшчэ бачыце тут пагрозы?**

**ІС:** Па нашых адчуваннях, пагроза не знікае, а павялічваецца. Мы хацелі высветліць, па-першае, ці падзяляюць лідары партый і грамадскіх арганізацый нашыя засцярогі, а па-другое, ці існуе ў іх нейкі супольны падыход у гэтай справе. Мы разумеем, што апаненты рэжыму Лукашэнкі, розняцца, часам дыяметральна, але ў галоўным для лёсу Беларусі пытанні мы можам дасягнуць адзінства. Ну і нарэшце: што трэба рабіць, каб абараніць незалежнасць? Мы прапанавалі пэўныя падыходы, якія ў выніку дыскусіі, паправак і дапаўненняў аформіліся ў Мемарандум. Ён адкрыты да далучэння іншых палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

**«НН»: Знайшлі паразуменне і з палкоўнікам Барадачом?**

**ІС:** Уладзімір Барадач выклаў сваё бачанне сітуацыі, і мы ўважліва яго выслухалі, як і ён нас. Як вы ведаеце, спадар Барадач падпісаў Мемарандум.

**«НН»: Чаму на сустрэчы не было прадстаўнікоў «Гавары праўду» і «Справядлівага свету»?**

**ІС:** З Уладзімірам Някляевым і Сяргеем Калякіным я гутарыла асабіста. На жаль, яны не маглі прысутнічаць з паважных прычынаў. Фармат сустрэчы, які быў абумоўлены загадзя, — першыя асобы альбо сустаршыні. На гэта былі свае прычыны. Былі запрошаныя і Зянон Пазняк, і Андрэй Саннікаў, але таксама не маглі прыехаць. Мы хацелі бачыць і лідара хрысціянскіх дэмакратаў, і старшыню прафсаюзаў спадара Фядыніча, некаторых іншых лідараў. Я пэўная, што ўдзел іх усіх быў бы толькі на карысць. Усім ім будзе дасланы Мемарандум, да якога яны могуць далучыцца.

**«НН»: Ці магчыма, што Рада БНР стане пасярэднікам для вызначэння адзінага кандыдата ад апазіцыі на наступных прэзідэнцкіх выбарах?**

**ІС:** Мне цяжка адказаць, бо, з аднаго боку, пры Лукашэнку слова «выбары» — гэта нешта зусім іншае, што яно азначае ў цывілізаваным свеце. Пры Лукашэнку не можа быць справядлівых выбараў. Падругое, і мы падкрэслілі гэта на сустрэчы, дзейнасць Рады БНР носіць надпартыйны характар, мы прынцыпова не ўмешваемся ў міжпартыйны працэс. Увогуле ж, калі выйсці за межы пытання — незалежна да тэмы «выбараў», — скажу, што мы разглядаем нейкія ініцыятывы, калі яны паступаюць, але ніколі і нікому нічога не навязваем.

**«НН»: Ці цяжка было сабраць людзей розных поглядаў разам?**

**ІС:** Ёсць справы, дзеля якіх людзі здольныя збірацца разам. У канцы 1980-х я з сябрамі стварала фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля, і спачатку здавалася, што бярыся за нерэальную справу. За першы год сабралі толькі пяць тысячаў даляраў, і тое пераважна з канадскіх беларусаў. А праз пэўны час (на 1997 год, калі я саступіла кіраўніцтва ў фондзе з прычыны абрання старшынёй Рады БНР) мы штогод прывозілі сотні беларускіх дзетак на аздараўленне і накіроўвалі ў Беларусь лекаў на мільёны даляраў. Дык хіба пагроза страты незалежнасці — менш бяспечная для нацыі за Чарнобыль?

**«НН»: Ці плануюцца падобныя сустрэчы ў будучыні?**

**ІС:** Так, безумоўна.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Івонка Сурвіла**

Нарадзілася ў 1936 у Стоўбцах. Ад 1944 разам з бацькамі на эміграцыі. Жыла ў Даніі, Францыі, Іспаніі. Цяпер у Канадзе. Скончыла філалагічны факультэт Сарбоны. Узначальвала Канадскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля. Мастачка.

# «Белая Русь» у партыю так і неператварылася



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Сярод дэлегатаў найбольшай папулярнасцю карыстаўся дэгустацыйны шапік Барысаўскага мясакамбіната.**

Другі з'езд лукашэнкаўскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь» прайшоў 3 лістапада ў Малой зале Палаца Рэспублікі ў Мінску.

У сталіцу з'ехаліся прыкладна 400 дэлегатаў з усёй краіны, каб падвесці вынікі працы за 2007–2012. Пытання аб пераўтварэнні «Белай Русі» ў палітычную партыю ў парадку дня не было.

Сярод дэлегатаў найбольшай папулярнасцю карыстаўся дэгустацыйны шапік Барысаўскага мясакамбіната. А жанчыны часцей падыходзілі да прылаўкаў з марожаным і «Слодычам».

«Белая Русь» аб'ядноўвае чыноўнікаў, ідэалагічных работнікаў, «прадстаўнікоў працоўных калектываў». Яна будуецца па тым самым прынцыпе, што кіраўнічыя партыі ва ўсіх таталітарных і аўтарытарных дзяржавах.

Удзел у такім аб'яднанні — неабходная ўмова для кар'еры чыноўнікаў.

Аднак аб'яднанне не мае статусу партыі, бо партыі не маюць значэння ў сістэме адзінаасобнай улады. Таму «Белая Русь» існуе як бы на будучыню — на выпадак, калі сістэму трэ будзе перабудаваць на ўзор кіраванай, дэкаратыўнай дэмакратыі.

Узначальвае «Белую Русь» першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў.

**Сяргей Гудзілін**

# Катастрофа ў спорце: Ратаваць будзе пажарны

**Зменена ўсё кіраўніцтва айчыннага спорту.**

Алега Качана з пасады міністра спорту адставілі са скандалам. Лукашэнка нават прапанаваў набыць яму наручнікі. Пакуль у турму чыноўніка не пасадзілі, а вось змену знайшлі.

Калі б букмекерскія канторы прымалі стаўкі на тое, хто стане новым міністрам спорту, то яны б маглі добра зарабіць. Прызначэнне генерал-маёра Аляксандра Шамко абсалютна не чыталася. Прыцягнулі за вушы, што ў МНС ён адказваў за зборную па пажарна-выратавальным спорце, якая часта выйграе першынствы свету. Значыць, чалавек для спорту не чужы.

Аляксандру Шамко 44 гады. Ён мінчук. Скончыў сталічны палітэхнікум. А ўжо ў 2000-я — камандна-інжынерны інстытут МНС і Акадэмію кіравання. Апошнія чатыры гады быў намеснікам міністра МНС.

У інаўгурацыйным інтэрв'ю Шамко «Спортівной панораме» было шмат словаў, але зусім ніякай канкрэтыкі: «Складаныя і адказныя задачы, якія стаяць перад Міністэрствам спорту і турызму, неабходна трохі адкарэктаваць. Часу на разварушванне няма, таму мы правядзём увесь неабходны комплекс мерапрыемстваў. Нельга вылучыць нейкі адзін аспект гэтай працы».

Яшчэ новы міністр паабяцаў, што з яго прыходам у ведамстве будзе парадак, дысцыпліна і адказнасць. На пасяджэннях НАК Лукашэнка не адкрыў Амерыкі, сказаўшы, што хабарніцтва, адкаты, інтрыгі — звычайная справа для Мінспорту.

Таму лёгкага жыцця Шамко не будзе. Зрэшты, у міністэрства спорту ўжо ставілі чалавека, які быў вельмі далёкі ад гэтай сферы. У студзені 2003 міністрам стаў генерал, танкіст Юры Сівакоў. І парадокс — ён, бадай, і быў найлепшым кіраўніком ведамства за апошнія дзесяцігоддзе.

Праўда, Сівакова «з'елі» свае ж. «І ў шоу-бізнэсе, і ў спорце, асабліва ў найвышэйшых колах, усюды інтрыгі», — казаў ён у адным з інтэрв'ю. Калі Сівакова звальнялі, то яго абвінавачвалі ў педафіліі.

Дарэчы, былы міністр прапаноўваў зірнуць на асобы былых спартоўцаў: гімнаста Віталя Шчэрбы, біятланісткі Святланы Парамыгінай і весляра Уладзіміра Парфяновіча.

Здаецца, неблагія кандыдатуры. Але Шчэрба шмат гадоў жыве ў Амерыцы, Парамыгіна працуе ў недзяржаўнай газеце і піша пра карупцыю ў спорце, а Парфяновіч увогуле некалі быў у апазіцыі. Таму ўсе яны не зусім «свае» для сённяшняй улады.

Аляксандр Шамко звыклы змагацца з наступствамі паводак і пажараў, але пытанне, ці будзе ён здольны вывесці «спартыўную галіну», як піша БелТА, на новы ўзровень.

Шамко ў спорт прыйшоў не адзін. Новым памочнікам Лукашэнкі ў пытаннях спорту і фізічнай культуры стаў Максім Рыжанкоў — гэта сын першага міністра спорту незалежнай Беларусі.

Максім 18 гадоў адпрацаваў на розных дыпламатычных пасадах. Апошнім часам быў дарадцам Лукашэнкі ў пытаннях замежнай палітыкі. Сам Рыжанкоў сказаў, што для яго гэтае прызначэнне было нечаканасцю.

Ну і, нарэшце, Лукашэнка памілаваў Ігара Рачкоўскага за плюшавы дэсант. Ну і, многа ці мала, прызначыў былога кіраўніка памежнага камітэта сваім намеснікам. Хай не ў краіне, а ўсяго толькі ў Нацыянальным алімпійскім камітэце. Не выключана, што праз нейкі час Рачкоўскі зноў пойдзе на павышэнне.

Менавіта гэтай тройцы Лукашэнка даручыў разабрацца з катастрофай у спорце. Хаця ці ёсць тая катастрофа? Так, на лонданскай Алімпіядзе мы заваявалі толькі 12 медалёў — найгоршы вынік у гісторыі. Разам з тым, у параўнанні з астатнімі сярэднееўрапейскімі краінамі, лепш выступілі толькі Украіна і Венгрыя.

**Зміцер Панкавец**



Максім Рыжанкоў зрабіў імклівую дыпламатычную кар'еру, але яго перавялі ў спорт.



Рачкоўскаму прабачылі плюшавы дэсант.



Аляксандру Шамко цяпер не трэба насіць пагоны.

## Прэс-сакратар Саннікава Атрошчанкаў вырашыў не вяртацца ў Беларусь

**Ён кажа, што пазбягаў паўторнага арышту.**

Аляксандр Атрошчанкаў — адна з ключавых персон «Еўрапейскай Беларусі». Быў у штабе Андрэя Саннікава на прэзідэнцкіх выбарах. Суддзя Тацяна Чаркас за ўдзел у Плошчы асудзіла Атрошчанкава на 4 гады калоніі. Быў вызвалены рашэннем Лукашэнкі, прашэнне аб памілаванні не пісаў.

**«Наша Ніва»: Аляксандр, ці сапраўды вырашылі не вяртацца ў краіну?**

**Аляксандр Атрошчанкаў:** Так, не збіраюся. Ад 3 верасня я не ў Беларусі.

**«НН»: Чаму прынялі такое рашэнне?**

**АА:** Як я і казаў, 3 верасня я вяртаўся ў Беларусь з міжнароднай канферэнцыі. Вяртаўся цягніком з Расіі, партызанскімі шляхамі. У цягніку была спроба затрымання, арышту ці выкрадання мяне. Не ведаю нават, як гэта назваць. За некалькі прыпынкаў ад Мінска ў вагон пачалі заходзіць па адным людзі ў цывільным, якія сачылі за мной. Я патэлефанаваў Наталлі Радзінай, таксама сваёй жонцы. Паведаміў, што магу быць арыштаваны. Але я здолеў увесці гэтых людзей у зман і адарвацца. У Мінску я нават не заходзіў дадому, бо разумеў, што там мяне могуць чакаць, а адразу вылічваў шляхі адступлення.

**«НН»: Як выязджалі з краіны?**

**АА:** Не хацеў бы паліць кантору, бо такім шляхам яшчэ могуць скарыстацца іншыя людзі.

**«НН»: Дзе Вы цяпер?**

**АА:** У Варшаве. Збіраюся тут застацца.

**«НН»: Сям'я з Вамі ці засталася ў Беларусі?**

**АА:** Ад нядаўняга часу яны разам са мной: і жонка, і сын.

**«НН»: Чым займаецеся ў Варшаве?**

**АА:** Грамадскай дзейнасцю на карысць Беларусі.

**«НН»: Ваша рашэнне застацца ў Польшчы неяк звязана з падобнымі рашэннямі Змітра Бандарэнкі і Андрэя Саннікава?**

**АА:** Я расказаў Бандарэнку маю сітуацыю. Магчыма, нават гэтая гісторыя стала штуршком, каб Зміцер таксама прыняў рашэнне не вяртацца ў Беларусь. Хутчэй я паўплываў на іх, чым яны на мяне.

**«НН»: Чаму не афішавалі сваё рашэнне?**

**АА:** Быў момант з перавозкай сям'і да мяне. Але я ніколі не хаваў, калі пыталіся, то шчыра адказваў.

**«НН»: Будзеце прасіць палітычны прытулак?**

**АА:** Не хацеў бы. Буду глядзець. Пакуль што я разглядаю сваё знаходжанне ў Варшаве як доўгатэрміновую камандзіроўку.

**Гутарыў ЗП**




Андрэй Саннікаў, Аляксандр Атрошчанкаў, Зміцер Бандарэнка — усе яны цяпер за мяжой.

### Сцісла

**Пасол Германіі: ЕС не навязвае Беларусі сваю волю**

«У нас няма санкцый супраць асабіста Беларусі і супраць беларускай эканомікі — ёсць абмежаванні, якія адносяцца да пэўных асоб і іх дзейнасці», — сказаў пасол Германіі ў Беларусі Вальфрам Маас.

**Саннікаў: Спадзяюся, што мой ад'езд дапаможа вызваленню іншых палітвязняў**

Экс-кандыдат у прэзідэнты даў інтэрв'ю агенцтву «Ройтэрс» і беларускай службе радыё «Свабода». Глядзіце і чытайце на nn.by.

**КХП-БНФ пасварыліся з гісторыкам Кузняцовым**

«Не зрабіўшы нічога ў Курапатах, ён бярэ на сябе ролю асобы, якая клапоціцца пра гэтае месца. Партыя КХП-БНФ абвяшчае Кузняцова персонай нон-грата ў Курапатах». Такое рашэнне было агучана падчас шэсця ў Лошыцкі Яр. Сам Ігар Кузняцоў кажа, што хадзіў і будзе хадзіць у Курапаты.

**Маладых хрысціянскіх дэмакратаў узначаліла Хоміч**

Новае грамадскае аб'яднанне «Маладыя хрысціянскія дэмакраты», устаноўчы з'езд якога прайшоў у Мінску 3 лістапада, узначалілі жанчыны. Старшынёй стала філолаг Марыя Хоміч, яе намесніцамі — Вікторыя Радзіеўская і Вольга Кавалькова.

ЗП

# Гендырэктар «Мілавіцы»: «Нацыяналізацыя? Я заўсёды да гэтага гатовы!»

**Дзмітрый Дзічкоўскі расказаў, што вытворчасць бялізны неўзабаве пераедзе з Мінска ў В'етнам.**

На сустрэчу з генеральным дырэктарам «Мілавіцы» Дзмітрыем Дзічкоўскім у адну з аўдыторый БНТУ набілася пад сотню слухачоў. Падзяліцца сваім вопытам і адказаць на пытанні студэнтаў ён вырашыў у рамках праекта AlterEdu.

Дзічкоўскі закончыў БДЭУ, тагачасны Наргас, 20 гадоў таму, але прызнаецца, што тыя веды па планавай эканоміцы яму ў жыцці не спатрэбіліся. Затое дапамагла вучоба ў амерыканскіх і канадскіх універсітэтах. Перад тым як у 2001 годзе стаць дырэктарам «Мілавіцы», Дзічкоўскі паспеў абараніць кандыдацкую дысертацыю па эканоміцы, стаць адным з заснавальнікаў, а пасля і прэзідэнтам незалежнай Бізнэсшколы ІПМ.

### Дзякуй крызісу

«Штогадовы зварот кампаніі складае каля 100 мільёнаў еўра, і толькі чвэрць гэтых грошай даюць продажы ўнутры Беларусі», — расказаў ён. Большасць прадукцыі «Мілавіцы» прадаецца ў Расіі, дзе найлепш наладжаная праца франчайзінгавых крамаў — мясцовыя бізнэсоўцы ад Калінінграда да Архангельска адкрываюць фірмовыя магазіны «Мілавіцы» ў сваіх гарадах. Беларускія спецыялісты дапамагаюць ім правільна расставіць вітрыны і раскласці тавар, каб прылаўкі выглядалі аднолькава ва ўсіх крамах.

За кошт таго, што 75% прадукцыі «Мілавіцы» ідзе на экспарт, леташні валютны крызіс прайшоў міма кампаніі. «Праблем з валютай для закупу сыравіны ў нас не было. Працаваць у Беларусі нават стала лягчэй, бо тут няма канкурэнцыі. Больш за тое, некаторыя імпарцёры спынілі сваю дзейнасць. Было добра, а стала яшчэ лепш», — усміхаецца Дзічкоўскі.

### Між Еўропай і Азіяй

На думку дырэктара, перспектывы развіцця «Мілавіцы» знаходзяцца на паўднёвым і ўсходнім рынках, дзе толькі-толькі пачынаецца спажывецкі бум. Краіны накшталт Індыі хутка развіваюцца, і рынак яшчэ не мае вялікай прапановы.

А вось ідэі аб скарэнні Еўропы давялося адкласці ў далёкую скрыню. «Там рынак перанасычаны канкурэнтамі. Прыйсці туды будзе немагчыма», — прызнаецца Дзічкоўскі.

**«Мілавіца» — адзін з самых дарагіх беларускіх брэндаў**

Украінскія эксперты, якія складалі сёлета чарговы рэйтынг, ацанілі яго на $71,5 мільёна. Даражэй каштуе толькі назва «Санта-Брэмар». А яшчэ два гады таму «Мілавіца» ўвогуле была на першым месцы.

Прадпрыемства было прыватызаванае ў 1991. Яго дырэктарам стала былая намесніца міністра лёгкай прамысловасці БССР Зінаіда Валеха. Кампанія здолела першай у краіне атрымаць міжнародны сертыфікат якасці ISO 9001, а таксама прыцягнуць інвестыцыі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.

З цягам часу 80% акцый «Мілавіцы» прадалі эстонскаму холдынгу Silvano Fashion Group. Найбольшую долю ў ім мае мясцовы мільянер Томас Тоол.

Цяпер «Мілавіца» дасягнула штогадовага абароту 100 мільёнаў еўра і чыстага прыбытку 15 мільёнаў еўра. Прадукцыя кампаніі прадаецца ў 500 фірмовых крамах у 16 краінах свету.



**Беларускія прыгажуні заахвочваюць купляць бялізну ад «Мілавіцы» ў 500 крамах ва ўсёй Еўразіі.**

«Момант ісціны» здарыўся ў 2010 годзе, калі ў «Мілавіцы» ўжо было заключанае пагадненне з буйной англійскай кампаніяй «Маркс&Спэнсэр». Беларусы збіраліся сшыць і паставіць на брытанскі рынак 1 мільён вырабаў, але не пад сваёй маркай, нікому не вядомай у Еўропе, а пад іменем «Маркс&Спэнсэр».

Але ўзнікла альтэрнатыва — расійцы толькі-толькі адышлі ад сусветнага крызісу, і ў краіне ўзнік гіганцкі адкладзены попыт на адзенне. Кіраўніцтва «Мілавіцы» вырашыла прадаць сшытую партыю вырабаў у Расію пад сваёй маркай. Інакш бы закупшчыкі набылі адзенне дзе заўгодна яшчэ, хоць у Кітаі, хоць у В'етнаме, тлумачыць Дзічкоўскі. А так расійскі рынак застаўся ў сферы ўплыву «Мілавіцы».

Рашэнне аказалася слушным. У наступныя гады тэмпы росту кампаніі рэзка павялічыліся. Цяпер кожны чацвёрты купальнік і станік, якія прадаюцца ў Беларусі, зробленыя на «Мілавіцы». Для параўнання: на рынку ўсходняга суседа кампанія мае каля 4%, але, па словах дырэктара, можа павялічыць сваю долю да 10%.



**Дзмітрый Дзічкоўскі атрымаў і савецкую, і амерыканскую адукацыю.**

### Пераезд на Паўднёвы Усход

Для гэтага ўжо ў найбліжэйшы час давядзецца здзейсніць мінірэвалюцыю — перавесці вытворчасць у краіны Трэцяга свету. Перспектываў працы фабрыкі ў сталіцы Беларусі дырэктар «Мілавіцы» не бачыць: «Сярэдні заробак краўчыхі — 4,5 мільёна рублёў. Для Мінска гэта вельмі мала, хоць для Віцебска ці Паставаў пакуль што нармальна».

«Вытворчасць у рэгіёнах яшчэ некалькі гадоў будзе існаваць. А пасля трэба будзе размяшчаць яе ў краінах з нізкім даходам: у В'етнаме, Інданезіі, Шры-Ланцы, дзе людзі зарабляюць $100. Праз 5—7 гадоў палова прадукцыі «Мілавіцы» будзе выраблялца там», — прагназуе ён.

### «Забірайце, мы зробім яшчэ»

На прадпрыемстве агулам працуюць некалькі тысяч чалавек. Пры пераносе вытворчасці многіх з іх давядзецца скарачаць. А гэта, відавочна, прыйдзецца недаспадобы беларускім уладам. Ці не баіцца Дзічкоўскі нацыяналізацыі прадпрыемства, як гэта зусім нядаўна адбылося з няўгоднымі кандытарскімі фабрыкамі «Камунарка» і «Спартак»?

«Нацыяналізацыя? Я заўсёды да гэтага ўнутрана гатовы. Калі гэта адбудзецца... Божа, у чым праблема? Мы зрабілі з «Мілавіцы» цукерку. Калі ласка, бярыце. Мы зробім яшчэ. У Беларусі ёсць чым займацца. На 95% прадпрыемстваў, калі зрабіць базавыя пераўтварэнні ў маркетынгу і іншых сферах, эфектыўнасць працы і прыбытак павялічацца ў тры разы», — пераканаты ён.

### Самы папулярны памер сярод беларусак — 75B

Мадэлі бялізны і купальнікаў «Мілавіца» ствараюць беларусы падчас сумеснай працы з еўрапейскімі спецыялістамі. «Мадэзевыя купальнікі распрацоўваюцца разам з італьянскімі дызайнерамі ў Мілане. У Беларусі б іх ніколі не прыдумалі, бо ў нас іншая каларыстыка і іншы погляд на моду. Французы б таксама ніколі не змаглі стварыць нашую канструкцыю бялізны, — тлумачыць Дзмітрый Дзічкоўскі. — Яны арыентаваныя на іншыя фігуры і іншыя ўмовы. Напрыклад, італьянцы і французы заўсёды спыняюцца на максімальным памеры 85D. Мы ж у стандартнай калекцыі робім ад 60AA да 90E, але часам даходзім нават да 120K! Гэта для англійскага рынку».

Калі ж казаць пра самы папулярны памер станіка сярод беларусак, то, па падліках маркетолагаў «Мілавіцы», гэта 75B. Такі памер мае палова ад агульнай колькасці прададзеных купальнікаў.

«Праўда, па еўрапейскіх даследаваннях, каля паловы пакупнікоў бялізны ўвогуле не ведаюць сваіх памераў», — смяецца Дзічкоўскі.

«Мілавіца» змагла пралабіраваць змены ў заканадаўстве, якія ў 2005 годзе дазволілі людзям прымяраць бялізну ў крамах. «Раней прымяраць было нельга, мог толькі прадавец прымерыць «на вока». Гэта было жахліва», — узгадвае ён.

Ягор Марціновіч

# У Баку пабудуюць самы высокі будынак у свеце

**«Вежа Азербайджана» будзе каштаваць 2 мільярды еўра.**

На беразе Каспійскага мора ўлады Азербайджана плануюць пабудаваць новы горад, сімвалам якога стане хмарачос «Вежа Азербайджана». Ён будзе складацца з сямі 85—150-павярховых будынкаў, а цэнтральная пабудова — са 186 паверхаў. У выніку агульная вышыня дасягне 1050 метраў. Калі праект удасца рэалізаваць, гэта будзе самы высокі будынак свету, які абгоніць хмарачос у Дубаі на 200 метраў.

ЯМ

## Сціслa

### Беларусы і малдаване — самыя бедныя ў Еўропе

Найвышэйшую купецкую здольнасць на кантыненце маюць грамадзяне Ліхтэнштэйна — 57 тысяч еўра на чалавека. Услед ідуць Нарвегія і Швейцарыя — па 32 тысячы еўра. У канцы спіса размясціліся малдаване (1250 еўра), а таксама грамадзяне Косава і Беларусі (па 2 тысячы еўра).

### «Пятруха» купіў «Братоў Грыль»

Бізнэсмэн Яўген Баскін, уласнік магілёўскай кампаніі «Сервалюкс» (брэнд «Пятруха»), набыў дзяржаўную Смалявіцкую бройлерную птушкафабрыку. Яе прадукцыя прадаецца пад назвай «Браты Грыль». Утвораны холдынг стане найбуйнейшым у галіне. Прадпрыемствы выпрацоўваюць агулам каля 100 тысяч тон мяса бройлераў.

### Рынак «Дынама» закрыецца да 1 снежня

Частку прадпрымальнікаў пераселяць у Ждановічы, а вось начны аптовы рынак пераедзе на Курасоўшчыну. З пачаткам зімы рэканструкцыя пачнецца і на самім стадыёне «Дынама».

ЯМ

# Новыя станцыі метро:

## топ-10 фактаў пра завершанае будаўніцтва

**«Грушаўка», «Міхалова» і «Пятроўшчына» — гэтыя станцыі ўжо прымаюць першых пасажыраў.**

Ужо 7 лістапада сотні тысяч жыхароў сталічных мікрараёнаў Паўднёвы Захад, Малінаўка і Брылевічы скароцяць час, які даводзіцца траціць на шлях з дому да цэнтра Мінска і назад. Адначасова адкрыўся і новы рэканструяваны ўчастак праспекта Дзяржынскага.

«Наша Ніва» ўзгадала некалькі цікавых фактаў, звязаных з будоўляй і адкрыццём метро.

### 1. Канец будоўлі пераносіўся тройчы

Падрыхтоўчыя працы на новых станцыях метро распачаліся яшчэ ў 2005. Але з першымі нязручнасцямі жыхары паўднёвага захаду сталіцы сутыкнуліся ў канцы 2008, калі быў перакрыты праспект Дзяржынскага — галоўная дарога, якая вядзе ў цэнтр горада. Вуліцы-дублёры тады яшчэ не былі пабудаваныя, таму жыхарам давялося змірыцца з ранішнімі і вячэровымі заторамі на вузкіх аб'язных дарогах.

Гарадскія ўлады абяцалі, што будаўніцтва 5,2 кіламетра шляхоў метро скончыцца да канца 2011, пасля тэрміны былі адсунутыя на верасень гэтага года, і вось, нарэшце, канчатковы тэрмін адкрыцця станцый — 7 лістапада 2012. Выніковы кошт будоўлі невядомы, але, імаверна, кожны кіламетр шляхоў каштаваў каля $60 мільёнаў.

### 2. Колеры станцый

Некалькі словаў пра асаблівасці інтэр'ера кожнай станцыі. Колерам «Грушаўкі» абраны залаціста-зялёны, які адпавядае позняму жніўню. На сцяне паміж лесвіцамі будзе вялікае пано з бронзавай грушай, разрэзанай напалам. На «Міхалове» таксама будуць прасочвацца прыродныя вясковыя матывы — халодны заход сонца. А вось асаблівасцю «Пятроўшчыны» стане зімняе зорнае неба.

### 3. «Па дарозе» з'явілася новая станцыя

Аднак адкрыццё трох станцый не азначае, што працы на праспекце Дзяржынскага закончацца. Папершае, засталася недабудаванай развязка з вуліцай Алібегава.

Па-другое, ужо калі пачалося будаўніцтва трох вышэйназваных станцый, было прынята рашэнне працягнуць лінію метро яшчэ адной станцыяй — «Малінаўкай». Дарэчы, яна стане зялёнай і светла-фісташкавай.

Мяркуецца, што станцыя прыме пасажыраў праз год. Больш рэальны тэрмін — праз два гады. Будаўніцтва «Малінаўкі» ў свой час ацанілі ў $105 мільёнаў. Столькі каштуюць 1,8 кіламетра шляхоў.

Пакуль што праспект Дзяржынскага застаецца перакрыты на ўчастку ад вуліцы Голубева да праспекта Любімава.

### 4. Новыя 50 тысяч пасажыраў

Па падліках спецыялістаў метрапалітэна, колькасць пасажыраў вырасце на 7%. Калі цяпер метро карыстаюцца 735 тысяч чалавек, то стане 785 тысяч.

Каб вывезці новых пасажыраў з Малінаўкі, ужо закуплена 7 цягнікоў па пяць вагонаў у кожным. Усе яны прыехалі ў Мінск з падмаскоўнага завода ў Мытішчах. Кожны вагон каштуе каля $115 тысяч.

### 5. «Пятроўшчына» ці «Мединститут»?

Называючы новыя станцыі метро, Мінгарвыканкам трымаўся прынцыпу гістарызму. Грушаўка, Міхалова, Пятроўшчына — назвы вёсак і фальваркаў, якія калісьці існавалі ў тых мясцінах.

Да першых дзвюх станцый пытанняў ні ў кога не ўзнікла, а вось «за» і «супраць» «Пятроўшчыны» пачалася папяровая вайна.

Яшчэ чатыры гады таму студэнтка Медыцынскага ўніверсітэта, які знаходзіцца непадалёку, напрасіла Аляксандра Лукашэнку перайменаваць станцыю ў гонар яе навучальнай установы. Аналагічны зварот нядаўна склалі і супрацоўнікі ўніверсітэта. Камісія па перайменаваннях Мінгарвыканкама вырашыла не адыходзіць ад сваіх ранейшых планаў.

Дарэчы, паўгода таму «Наша Ніва» пыталася ў наведвальнікаў сайта іх меркаванне на гэты конт. Прыйшло 120 каментароў. Тут таксама перамагла гістарычная «Пятроўшчына».



БЕЛТА

Асаблівасцю «Пятроўшчыны» стане зімняе зорнае неба над галавой.




БЕЛТА

Грушаўка — так называлася вёска, якая размяшчалася на гэтым месцы раней.




Новая схема мінскага метро.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



БЕЛТА

Новыя станцыі будавалі чатыры гады.

### 6. Інтэрнэт у метро

Яшчэ перад адкрыццём метро мабільныя апаратары абсталявалі станцыі сваёй апаратурай. Ужо вядома, што ўсе тры беларускія аператары — МТС, Velcom і Life:) — дазволяць сваім кліентам карыстацца 3G-інтэрнэтам.

### 7. «Дом з плакатамі» выстаяў

Падчас будаўніцтва метро многія прыватныя дамы былі знесеныя. Іх гаспадары пагадзіліся атрымаць кампенсацыю, прапанаваную дзяржавай. Але не ўсе.

З гісторыяй метро цяпер будзе непарыўна звязаная гісторыя вядомага «дома з плакатамі», які знаходзіцца літаральна за 50 метраў ад станцыі метро «Міхалова». Плошча дома, у якім жыве дзяржаўны трэнер па лёгкай атлетыцы Аляксей Васкабовіч, складае 305 квадратных метраў, у ім зарэгістраваныя тры сям'і з дзевяці чалавек.

Чыноўнікі ж вырашылі ашчадзіць і выселіць іх у адну кватэру, а не ў тры, як таго патрабуе закон. Пасля прапанавалі дзве кватэры, але Васкабовіч адмовіўся і ад такога варыянта. Ён вывесіў на фасад дома гіганцкія плакаты, на якіх паведамлялася пра парушэнне яго правоў. Судовая вайна працягваецца ўжо каторы год, і нельга сказаць, што трэнер атрымаў у ёй паразу.

Калісьці чыноўнікі Мінгарвыканкама заяўлялі, што існаванне дома перашкаджае пракладцы тунэля, таму супярэчыць грамадскім інтарэсам. Што ж, метро пракапане і гатовае да адкрыцця, а дом Васкабовіча стаіць дагэтуль.

### 8. Перайменаваныя прыпынкі

Да адкрыцця новых станцый мінскія ўлады прымеркавалі і шэраг перайменаванняў. Новыя назвы атрымалі 30 прыпынкаў грамадскага транспарту.

Кожны з тапонімаў адпавядае рэальнасці, але некаторыя выглядаюць нязвыклымі для мінчукоў.

Сачыце за ланцужком: з'яўляюцца новыя прыпынкі «Маскоўскі рынак» (былы «Праспект газеты «Звязда»), «Праспект газеты «Звязда» (былы «Міхалова»), «Станцыя метро «Міхалова» (былы «Уманская»), «Уманская» (былы «Чыгуначная»), «Чыгуначная» (былы «Сямашкі»), «Сямашкі» (былы «Дом правасуддзя»). На якім з іх выходзіць — цяжкая задача для недасведчанага пасажыра. Таму па першым часе прыглядайцеся да назваў прыпынкаў.

### 9. Транспарт паедзе па-новаму

Ад 7 лістапада будуць істотна зменены маршруты грамадскага транспарту, якія выконвалі функцыю вывазу жыхароў Малінаўкі і Паўднёвага Захаду. Цяпер іх пераарыентуюць на падвоз да станцыі «Пятроўшчына» ці ўвогуле закрыюць. У прыватнасці, вырашана адмовіцца ад аўтобусаў № 81, № 103, № 118 і іншых.

Новую падрабязную схему можна ўбачыць на сайце «Мінсктранса».

### 10. Адбітак на жыцці горада

Нарэшце, адкрыццё новых станцый метро паўплывае і на іншыя сферы жыцця горада. Ужо цяпер гаспадары кватэраў у Паўднёвым Захадзе, Малінаўцы і Брылевічах павялічваюць цану арэнды, бо жыллё апынулася блізка да метро. Апроч таго, абудзецца чарговы перадзел рынку маршрутных таксі.

Да гэтага часу рэйсы ў Малінаўку былі самымі прыбытковымі ў горадзе і трапіць на іх было складана, цяпер жа пасажырапаток зменшыцца. Гэта прымусіць кіроўцаў альбо шукаць іншыя маршруты, альбо ўвогуле адмаўляцца ад перавозак.

**Ягор Марціновіч**

# «Дай дарогу!» забаранілі за песню «Саню»?

Пад забарону патрапілі два канцэрты гурту. 3 лістапада «Дай дарогу!» мусіў іграць у родным Брэсце, а 6 лістапада выступіць з вялікім сэтам у межах фэсту «Рок-хваля» ў Гродне.

Лідар гурту «Дай дарогу!» Юры Стыльскі заявіў, што музыканты могуць з'ехаць з краіны.

Юры Стыльскі расказвае, што «першы сігнал» яны атрымалі падчас Men's Fest, які праводзіўся ў Брэсце 27–28 кастрычніка. «Дай дарогу!» былі заяўленыя галоўным пунктам мерапрыемства. «Я зразумеў, што нас канкрэтна ўзяліся пераследаваць, калі арганізатар фэсту сказаў, што яму не дадуць больш займацца канцэртнай дзейнасцю ў горадзе, калі ён не паведаміць публічна, што нас не будзе», — кажа музыка.

Юры Стыльскі гаворыць, што яны і надалей будуць рабіць спробы зладзіць канцэрты ў Беларусі. «Мы не хочам стаць злоснымі апазіцыянерамі. У аніякія партыі не ўваходзім і наогул я далёкі ад гэтага палітга..а, мы пяём пра бытавуху, сацыялку ды пра крыкі сэрцаў», — кажа лідар гурту «Дай дарогу!». У рэпертуары берасцейцаў ёсць пара зусім непаліткарэктных нумароў. Адна з песень завецца «Саню». Няўжо Юры не думаў пра наступствы, калі пісаў гэтую песню?

«Я пісаў пра тое, што адбываецца з маімі роднымі, з Мамай, якая тады збірала скрынкі ды бутэлькі, хоць мае медаль ветэрана працы. Пісаў пра магутнасць і талент, можа, выйшла трохі саркастычна, але так ужо выйшла. Не думаў, што нейкія музыканты з сутарэнняў могуць выклікаць такі рэзананс. Гэта для мяне нешта новае, пагатоў і песеньцы гэтай ужо з 10 гадоў».

**«Тузін гітоў»**



GENERATION.BY

Юры Стыльскі.

## Кніга, як выгадаваць дзіця беларускамоўным, разышлася за два дні

Укладальніца Зося Кустава: «Я зрабіла **альтэрнатыву буквару**».

У дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла чытанка для дзяцей «Азбукоўнік і лічылка», укладзеная Зосяй Куставай і аформленая мастаком Уладзімірам Пашчасцевым.

Як расказалі карэспандэнту «НН» у выдавецтве, кніга, што паступіла ў продаж на мінулым тыдні, ужо амаль разышлася. Большую частку двухтысячнага накладу выкупілі бібліятэкі ў рэгіёнах, у кнігарні пайшла нязначная частка — усяго 150 асобнікаў.

Укладальніца Зося Кустава тлумачыць поспех кнігі тым, што такой літаратуры ў Беларусі мала: «Фактычна, я зрабіла альтэрнатыву традыцыйнаму буквару». У чытанцы ёсць творы больш як 70 аўтараў.

Спадарыня Кустава кажа, што пачала складаць кнігу яшчэ тады, калі падрастала яе дачка Валярына. Аўтарам канцэпцыі яна называе сваю маму Валянціну Салаўёву.

Што адметнага ў кнізе? Кожнай літары, кожнай лічбе прысвечаны аўтарскі тэкст кагосьці з пісьменнікаў. Кніга вучыць дзетак і этыкету. (Для гэтага ёсць спецыяльны раздзел «Куфар ветлівасці і дабрыні».) А «Куточак бабулі Усціннi» знаёміць дзяцей з народнымі казкамі і калыханкамі.

«Мяне выхоўвала бабуля Усціння, і я прысвяціла ёй раздзел у кнізе. Усё пачынаецца з калыханкі. Хто заспявае яе вам у маленстве, на якой мове — з гэтага пачынаецца дзіця», — кажа ўкладальніца.

Зося Кустава асабліва падкрэслівае, што чытанка закліканая не толькі выхоўваюць будучых інтэлектуалаў, але найперш гадаваць беларусаў.

**Сямён Печанко**



Знайсці «Азбукоўнік і лічылку» можна ў крамах «Белкнігі», а таксама замовіць па тэлефоне выдавецтва — (017) 203-58-09 (разлік безнаяўны).

**Азбукоўнік і лічылка.** — Мінск: «Мастацкая літаратура», 2012.

## У Мінску рэзка выраслі цэны на мяса

Кіло свіногa філея ў фірмовых крамах Мінскага мясакамбіната каштавала 78, а цяпер — 91 тысячу рублёў.

Кіло шыі было 74 тысячы, а ўжо — 87. Такім чынам, цэны на мяса ў Мінску зраўнаваліся з маскоўскімі і сталі ў два разы большыя, чым у суседняй Польшчы.

Было спадзяванне, што падвышэнне на 30% максімальных адпускных цэнаў мясакамбінатаў на свініну і ялавічыну, якое адбылося з 4 кастрычніка, не паўплывае на цэны ў крамах. Аднак раздробныя цэны таксама папаўзлі ўверх.

Імаверна, наступным этапам працягнуць рост цэны на кілбасы і вяндліну, скачка якіх пакуль увосень не было.

**Сяргей Гезгала**



З 2 лістапада цэны памяняліся.

## Футбаліст Адо: **Паўлічэнку мы называлі Баця**

Беларускі футбаліст Марк-Фрэдэрык Адо даў вялікае інтэрв'ю Goals.by. Аказалася, што ён не проста адслужыў паўтара года ў беларускім спецназе, але і разганяў паход Казуліна на Акрэсціна ды намётавае мястэчка на Кастрычніцкай плошчы ў 2006.

**— Брыгадай спецназа тады кіраваў Дзмітрый Паўлічэнка. Мне даводзілася пару разоў з ім перасякацца, і ён быў падобны да суровага чалавека. Які ён быў у зносінах з вамі?**



— Вельмі добрым камандзірам брыгады. Для нас усіх ён быў вельмі паважаным чалавекам. Мы яго называлі Баця. Ён ставіўся да нас, як да сваіх братоў. Уставаў з намі на кожную зарадку а шостай раніцы. Узімку, летам — без розніцы. Бегаў марафоны. І не цураўся простых салдат. Цісну руку і стараўся ўнікнуць ва ўсе патрабаванні. А на Новы год апранаўся Дзедам Марозам.

Можаце сабе ўявіць! Чалавек пра нешта не можа сказаць дакладна, пакуль не паспрабуе гэта на сабе. Хоць сябры мяне спрабавалі адгаворваць: «Блін, Марчэла, ты куды ідзеш! Боты! Замбуюць!» Замбаванні там толькі ў пачуцці пляча.

**— На разгонныя акцыі даводзілася хадзіць?**

— Я служыў у гарачы час выбараў 2006 года. Так што было. 2 сакавіка на Нямізе перакрывалі дарогу. Пры намётавым мястэчку таксама быў. Разумеў, што адбываецца, але побач стаяць пацаны, з якімі прабег неверагодную колькасць кіламетраў, поўзаў у гразі, скакаў, мяне неслі, я нёс...

**— Людзей білі пры разгоне?**

— Я нікога не біў. Наогул, мала хто біў. Адзіная сутычка здарылася, калі народ Казуліна ішоў вызваляць [Насамрэч Казулін 25 Сакавіка ішоў на чале калоны, акцыя была жорстка разагнана — «НН».]

Там стаяла наша брыгада. З боку абывацеля гэта выглядала так. З нашага боку выглядала паіншаму. Гэта служба. Мы былі па-за палітыкай. Гэта не дрэнна і не добра. Гэта проста так ёсць.

**Паводле goals.by**

**Рэкамендуем**

## Людзі на балоце, рэальныя, сёння

Тут балота — нібы акіян, а журавінаў — мора. Альманы — апошняя беларуская вёска побач з украінскай мяжой і амаль што ўскраек цывілізацыі: адразу за вёскай пачынаецца дрыгва. Зрэшты, на «суседства» з багнай ніхто не скардзіцца: людзі тут жывуць з балота. Галоўная крыніца прыбытку ў гэтых мясцінах — збор журавінаў. Іншых заробкаў у Альманах амаль што няма. Глядзіце рэпартаж Ганны Бадзякі і Таццяны Гаўрыльчык на nn.by.

# Бойфрэнд Азаранкі зваліўся з 3-га паверха ў Парыжы



Заклініла замок у ванным пакоі, і ён спрабаваў **вылезці праз акно**.

1 лістапада раніцай украінскі тэнісіст Сяргей Бубка зваліўся з 3-га паверха будынка ў прэстыжнай 16-й акрузе французскай сталіцы. Са шматлікімі пераломамі ён трапіў у бальніцу імя Жоржа Пампіду.

Бубка вярнуўся дадому аднаго з сяброў пасля вечарынкі. Тэнісіст апынуўся замкнёным у ванным пакоі, адкуль спрабаваў праз акно трапіць у іншае памяшканне.

Вядома, што яго звязваюць блізкія адносіны з першай ракеткай свету, беларускай Вікторыяй Азаранкай. Яна ўжо наведала бойфрэнда ў клініцы. Бацька ж атлета — славуты скакун з шастом Сяргей Бубка-старэйшы — увесь час дзяжурыў у калідорах бальніцы.

Тэнісісту зрабілі аперацыю. Жыццю нічога не пагражае.

**Сямён Цыбульскі**

# Беларусь трапіла ў South Park




**South Park**

Аўтарамі папулярнага серыяла з'яўляюцца 41-гадовы Мэт Стоўн і 43-гадовы Рэндальф Паркер. Першая серыя South Park была паказаная 13 жніўня 1997. На дадзены момант знята 16 сезонаў, якія ўключаюць 226 серый. Паказвае мультфільм тэлеканал Comedy Central.

У чарговай серыі скандальнага мультсерыяла **беларускіх фермераў расстрэльваюць** і душаць бульдозерамі.

Здарылася! Стваральнікі South Park знялі эпізод пра Беларусь. Наша краіна ў чарговай серыі прадстаўленая групай фермераў, якім супрацьстаіць «беларускі ўрад» і бульдозеры. Маленькія героі серыяла выступаюць у падтрымку фермераў, перамовы паміж удзельнікамі канфлікту наладжвае Ісус. Але сканчаецца ўсё кепска.

Дарма што галоўныя героі серыяла — маленькія хлапчукі. Тэмы, што ўздымаюць аўтары мультоў, зусім недзіцячыя. Ад аднаполых шлюбаў да пытанняў рэлігіі — нічога святога, адным словам. І ўсё ж няправільна было б думаць, што South Park —гэта суцэльны бессэнсоўны сцёб. Напрыканцы кожнай серыі адзін з маленькіх герояў робіць выснову з чарговай гісторыі, у якую трапілі персанажы.

Аўдыторыя South Park налічвае мільёны гледачоў па ўсім свеце. Магчыма, многія з іх пасля прагляду эпізода з «беларускімі фермерамі» захочуць даведацца больш падрабязна пра загадкавую краіну Belarus.

**Сямён Печанко**

# Які ён, беларускі мужчына?

Паводле статыстыкі, на 10 жанчын у краіне **прыпадае 8,68 мужчыны**. Гэта прытым, што нараджаецца на 10 дзяўчынак 10,58 хлапца.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мужчыны раней паміраюць, раней гінуць, карацей, меней жывуць. Таму і выходзіць так, што ў Беларусі на 1000 мужчын прыпадае 1152 жанчыны.

Сярэднестатыстычнаму беларускаму мужчыну — 37 гадоў. У шлюб мужчыны ўступаюць у сярэднім у 26,6 года. Для параўнання: у 1991 годзе гэта рабілі ў 23 гады. Цяпер мужчына не спяшаецца афарміць адносіны, часцей сталі сустракацца нефармальныя шлюбы.

А як жа здароўе мужчын? Белстат прыводзіць інфармацыю і аб гэтым. На сення толькі кожны чацвёрты мужчына займаецца фізкультурай або спортам і толькі кожны восьмы робіць тое штодня.

У той жа час палова мужчын курыць, прычым 7,1% выпальвае больш за 20 цыгарак за дзень. І гэта нягледзячы на той факт, што курэнне гарантавана вядзе да хваробаў і слабасці ўжо да 50 гадоў.

**Мікола Бугай**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# ЖЭСТачайшыя

З уласцівай яму сціпласцю Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка абвясціў свету, што да Сталіна яму яшчэ тупаць і тупаць.

Аднойчы я ўжо датупаў да Сталіна. Тупаў недзе гадзіны тры.

Гэта была ці не самая доўгая чарга ў свеце. Памятаю, як два чалавекі ў аднолькавых скураных паліто цягнулі з чаргі трэцяга, зусім старога, як па ягоных нагах бездапаможна стукаўся на доўгім раменьчыку фотаапарат «Зоркий»...

1958 год, мне 17.

Сышоўшы ў халоднае падзямелле і павольна праходзячы наўкол саркафага, я быў проста ашаломлены неадпаведнасцю аблічча яшчэ нядаўняга ўладара паўсвету з пасмяротнай рэальнасцю. Больш за ўсё мяне шакавалі нізкі лоб і сівыя бялявыя валасы, з-пад якіх адсвечвала сінюшная скура абяскроўленай галавы. Не выключана, зрэшты, што віной таму агіднаму ўражанню было яркае нерухомае святло ў саркафагу, вакол якога павінен быў па задуме творцаў відовішча заставацца густы, такі ж нерухомы, змрок...

Сёння мне падаецца, што калі б Сталіна не выкінулі з маўзалея, у гэтым было б менш сталіншчыны: няхай не адразу, але ў рэшце рэшт усе ўбачылі б, які нікчэмны, пачварны і нават убогі гэты стары, што наводзіў жах на агромністую краіну і паўсвету. Разам са знішчаным ім настаўнікам яны зжылі б сябе ў новых пакаленнях, ператварыліся б, як адзін з іх, у дурнаватых жывых лялек на маскоўскіх плошчах.

Але замест цела пакінулі дух.

Па-сталінску спадзяваліся, што «няма чалавека — няма праблемы». Атрымалася, што чалавека няма, а праблема ёсць...

Іншым разам я тупаў да Сталіна ў 1961, якраз пад 7 лістапада, так бы мовіць, чырвоны дзень.

Мы, чатыры студэнты-гісторыкі, выйшлі пасля заняткаў у золкую восеньскую ноч. І праз якія сто метраў натыкнуліся на свінцова-шэры жаўнерскі ланцуг... «Праходзьце, праходзьце, няма чаго тут затрымлівацца», — праспешваў афіцэр. Мы намагаліся нешта спытаць. Ён нервова-загадна махнуў рукой у бок ад схаванай за дрэвамі гарадскога сквера плошчы, дзе пульсавалі нейкія сінявата-бэзавыя ўспалохі...

Праз скразныя пад'езды ды падваротні мы абышлі той непрыступны ланцуг і, крадучыся, трапілі ў цёмны двор дома, што фасадам выходзіць на плошчу. Чапляючыся за

## Чалавека няма, а праблема ёсць...

пякуча слізкія зледзянелыя прыступкі пажарнай лесвіцы, мы ўзлезлі на дах і амаль паўзком дабраліся да нізенькай агароджы на самым краі. Мы праседзелі там, абняўшыся, усю ноч, калоцячыся ад холаду ды дрыжыкаў. Дзіўна, але я не запомніў нейкіх асаблівых падрабязнасцяў. Толькі цягачы, мяхі з пяском, тросы, аўтаген, пражэктар... Да сярэдзіны дня месца, дзе стаяў помнік, было абгароджана драўляным плотам. Увесь тыдзень да 7 лістапада даносіліся адтуль глухія выбухі ды раз'юшаны дробат перфаратараў. Знаўцы тлумачылі, што ў помніка вельмі глыбокі і трывалы падмурак...

Маё пакаленне народжаных у 1940—50-я гады, мусіць, апошняе, здольнае беспамылкова пазнаваць у падрабязнасцях і агульнай атмасферы сённяшняга жыцця знаёмыя рысы сталіншчыны. Нават знешнія — праз жэсты.

Увогуле жэсты — ці не самая пазнавальная рыса ў паводзінах «жэстачайшых». Мусіць, каб не пераблытацца ў стагоддзях. Вы памятаеце, напрыклад, жэсты Рузвельта, Мітэрана, нават «жалезнай лэдзі» Тэтчэр? А вось фюрэр, акрамя нацысцкага «хайль», вельмі любіў цёрці рукі, Ленін — змінаць кепку альбо падпіраць з абодвух бакоў камізэльку, Сталін — трымаць руку за бортам фрэнча ці шыняля.

Жэст помніка...

Неўміручы жэст!

А за жэстам — пераслед ды нават знішчэнне палітычных праціўнікаў; намаганні мець татальны кантроль калі не над розумам, дык над паводзінамі цалкам залежных ад начальства грамадзян; перамога загаду над законам; пошук ворагаў унутры краіны і кругавая абарона звонку; падазронасць, помслівасць, безматыўная жорсткасць; сацыяльная дэмагогія і хлусня са ўсіх крыніц прапаганды...

Дастаткова, да прыкладу, прачытаць побач з прызнаннем праўды Курапат (адмаўляць яе ўжо немагчыма) пра тое, што «новыя пакаленні палітыкаў ужо не нясуць адказнасці за Курапаты...», пра «ўсялякія спекуляцыі на трагедыі...», пра нейкіх нядобрых людзей, якія «трызняць «дэмакратычным трыбуналам» і марац пра расправу са «сталіншчынай», якая ўжо даўно стала гісторыяй», каб разгледзець ва ўсіх гэтых і падобных піруэтах крывадушныя жэсты у бок легкавернага грамадства.

Каб яно не перашкаджала тупаць і тупаць...

*kamerton_41@mail.ru*

# Жанчыны з формамі

## Belarus Fashion Week парадаваў калекцыяй для памеру X+ і засмуціў паўпустымі заламі.

Бачыць з тэлеэкранаў і на подыумах мадэляў з недасягальнымі фігурамі, якія так часта выклікаюць зайздрасць і пачуццё недасканаласці, ужо надакучыла. Іншая справа — паглядзець на калекцыі для жанчын з формамі, якія нашмат бліжэй да сапраўднага жыцця. Сёлетні мінскі Тыдзень моды даў такую магчымасць.

Belarus Fashion Week адчыніў свае дзверы ўжо пяты раз. Каля 70 дызайнераў з Беларусі і з замежжа прэзентавалі свае працы.

Самі арганізатары адзначаюць, што ажыятажу вакол квіткоў і запрашальнікаў не было. І нават топавыя беларускія дызайнеры не заўсёды хочуць выстаўляць свае мадэлі на Тыдні моды, бо не бачаць перспектывы ў айчынным рынку спажывання.

Між тым, цікавых паказаў хапала. Асабіста я абрала прэзентацыю адзення мадэльера Наталлі Гайдарджы для жанчын памеру X+.

За паўгадзіны да паказу ў Палацы мастацтваў гледачоў практычна не было, толькі у асобных кутках гуртаваліся дызайнеры. Падняўшыся ў хол, я заўважыла некалькі секцый з продажам дызайнерскага адзення, але ці то цэны высокія, ці то нам зручней апранацца ў звычайных крамах, — людзей не было і тут. Дызайнеркі мерзлі каля сваіх стэндаў.

Калі скончыўся папярэдні паказ, у хол пачалі прыходзіць людзі. Вытанчаныя і ўрачыста апранутыя, яны абмяркоўвалі калекцыі і дызайнераў. Некаторыя не гублялі магчымасці фатаграфавацца на фоне банераў папулярных фірмаў і марак, бо не кожны дзень можна з гонарам казаць, што быў на Тыдні моды.

Людзі займалі месцы ў зале, але шмат крэслаў засталіся пустымі. Было адчуванне, што на паказ прыйшлі хіба дызайнеры і сябры сяброў гэтых дызайнераў.

Адна за другой на подыуме пачалі з’яўляцца жанчыны ў яркім адзенні з натуральных матэрыялаў. Фатографы нястомна здымалі, паветра рассякаў гук ад затвораў іх апаратуры. Не абышлося без падзенняў. Адна з мадэляў ад хвалявання згубіла раўнавагу проста перад фатографамі, але хутка паднялася, адарыўшы гледачоў усмешкай.

Выйшла на подыум і Наталля Гайдарджы. Яна натуральна глядзелася між мадэляў сваёй новай калекцыі. З ёй была малая дачка.

Упэўненыя ў сабе, з запалам у вачах, жанчыны прэзентавалі адзенне. Нікога не бянтэжыла тое, што іх формы не адпавядаюць мадэльным стандартам.

Усё выглядала густоўна і прэзентабельна. Яны пырхалі па подыуме як матылі. Стракацела адзенне — яркае і свабоднае, для сапраўды ўпэўненых і незакамплексаваных жанчын. Іх свабода і ўпэўненасць у сабе перадавалася іншым.

**Вольга Гарапучык**

**Пяты выпуск Belarus Fashion Week**

сезона вясна-лета 2013 прайшоў у Мінску ад 30 кастрычніка да 4 лістапада ў Палацы мастацтваў. Арганізоўвала Тыдзень моды Яніна Ганчарова, дырэктар Цэнтра моды і прыгажосці «Хрустальная німфа». Ужо другі сезон запар Тыдзень моды праводзіцца пры падтрымцы абутковай кампаніі Marko.




**Калекцыя Наталлі Гайдаржы.**

ВОЛЬГА ГАРАПУЧЫК



ВОЛЬГА ГАРАПУЧЫК

**Памер X+**

Вобразны памер. Уключае ў сябе памеры ад 54-га і большыя.



ВОЛЬГА ГАРАПУЧЫК

**Мадэлька выйшла на подыум з дачкой.**

**Наталля Гайдарджы**

беларускі дызайнер адзення. Працуе толькі з лёнам. На Тыдні моды была паказаная яе аўтарская калекцыя ручной работы для чароўных і ўпэўненых жанчын памеру X+.




ВОЛЬГА ГАРАПУЧЫК

**«Маральнае задавальненне, а не эканамічнае»**

Сваімі ўражаннямі ад паказу калекцыі X+ з намі падзялілася маладая дызайнерка: «Вельмі спадабалася, уразілі манекеншчыцы, таму што яны сябе любяць і гэта бачна. Ад іх хочацца ўсміхацца і цешыцца. Шкада, што Belarus Fashion Week пакуль мае для краіны культурнае значэнне, своеасаблівае маральнае задавальненне для дызайнераў, а не эканамічнае. На Захадзе Тыдзень моды — гэта бізнэс-праект. У нас, на жаль, гэта пакуль не выходзіць».



PHOTO BYMEDIA.NET

**Паказ мадэляў Наташы Цуран.**



PHOTO BYMEDIA.NET

**Паказ мадэляў Людмілы Тараканавай.**

# Столінскія раскольнікавы

**Два падлеткі задушылі 13-гадовую Юлію Ляшук, каб праверыць, ці могуць забіць чалавека.**

2 лістапада вынеслі прысуд жыхарам Століншчыны. 17-гадовыя пэтэвэшнік і беспрацоўны забілі школьніцу, проста каб праверыць, ці здатныя на гэта. Чаму менавіта яе? Бо два гады таму, калі дзяўчынцы было толькі 11, яна адмовілася сустракацца з адным з іх. Здарылася забойства ў вёсцы Лядзец Столінскага раёна на Новы год.

Фёдар Дастаеўскі паходзіць з родавага гнязда ўсяго за кіламетраў 70 ад гэтай вёскі, калі напрасткі. І гісторыя амаль даслоўна паўтарае ягонае «Злачынства і пакаранне».

На судзе маладыя людзі расказалі, што яны напалі на школьніцу, калі тая вярталася дадому з дыскатэкі. Хлопцы закрывалі сваёй ахвяры рот і нос рукамі, душылі за горла, прыводзячы тым самым у стан непрытомнасці. Затым удвух згвалтавалі. Задушыўшы школьніцу, яе цела закапалі.

Адзін з нападнікаў асуджаны да пятнаццаці гадоў калоніі, другі — да адзінаццаці. Першы ж прызнаўся яшчэ і ў крадзяжы ровараў у вяскоўцаў.

СМ


Юлію Ляшук.

## Прадпрымальнік абразіў пракурора? «Гэта мне так помсцяць»

У 2011 сям'я Бучынскіх трапіла ў аварыю. Дакладней, іх машыну пратараніў п'яны мужчына, які ў дадатак быў пад наркатой. У выніку жонка і непаўналетні сын атрымалі пераломы. Пацярпеў і сам Валерый.

Суд адбыўся. Вінаватага ў аварыі асудзілі на два гады калоніі. Здавалася б, можна на гэтым спыніцца. Але не. Цяпер ужо самому бацьку сям'і пагражае лава падсудных. Яго падазраюць... у абразе прадстаўніка ўлады — пракурорскага работніка.


Мястэчка Радунь (Воранаўскі раён)

Яму пагражае да трох гадоў абмежавання свабоды.

Яшчэ падчас папярэдняга расследавання Бучынскі пісаў шматлікія скаргі на следчых, якія, на ягоную думку, рабілі парушэнні. На нейкія былі адпіскі, але былі і такія, у якіх прызнавалі памылкі.

Ужо тады, як ішоў судовы працэс, мужчына ўбачыў: дзяржабвінаваўца Карповіч і адвакат аднаго з пацярпелых (таго, хто сядзеў у машыне з п'яным кіроўцам) Бекіш сабраліся ў пакоі суддзі Цівунчыка. Па законе ж «непрацэсуальныя зносіны» забароненыя. Валерый прыгразіў, што будзе скардзіцца. З Галоўнага ўпраўлення юстыцыі Гродзенскага аблвыканкама адказалі: калі адвакат Бекіш знаходзілася ў прыёмнай, ёй стала дрэнна, «у сувязі з чым для аказання дапамогі яна была адведзена ў кабінет суддзі, дзе ёй была прадастаўлена магчымасць прыняць лекі. Сакратар прынесла шклянку вады, а памочнік пракурора Карповіч падала лекі». Валерый дзівіцца, чаму ў такім разе не было перанесена пасяджэнне альбо Бекіш не пайшла ў бальніцу — праз дарогу ад суда.

Наступная скарга Бучынскіх была на пракурорскага работніка Феясь, якая на судзе здымала Валерыя разам з сынам на відэакамеру мабільніка. Але афіцыйны адказ цвердзіў, што здымкаў не вялося: гэта быў нібыта толькі аўдыёзапіс, які не забараняецца.

Феясь падала сустрэчную заяву. Сутнасць яе ў тым, што ў судзе Бучынскі «парушаў парадак разгляду крымінальнай справы, у адносінах да дзяржаўнага абвінаваўцы [Феясь] паводзіў сябе агрэсіўна». Мужчына апелюе да здаровага сэнсу: маўляў, калі б ён сапраўды абражаў пракурорскага работніка, суддзя склала б на яго адміністрацыйны пратакол. Але гэтага не было.

Справу за абразу завялі чацвёрты раз (тройчы пастанову адмянялі). Валерый адзначае, што гэта ўсё — помста яму. «На мяне заводзяць справу кожны раз пасля скаргаў на суд». Вось і апошні раз справу аднавілі, калі ён са скаргамі схадзіў на прыём да намесніка старшыні Камітэта дзяржкантролю Леаніда Анфімава.

...Сям'я Бучынскіх мела ў Радуні свой бізнэс — валодала прадуктовым павільёнам. Але пасля аварыі жонка атрымала чатыры пераломы, 130 дзён лекавалася, не змагла вярнуцца да працы. І сёння бізнэсу фактычна няма.

Сяргей Макарэвіч

## Палкоўнік КДБ звёў рахункі з жыццём?

**Стрэл прагучаў у ляску побач з домам.**

Пра самагубства супрацоўніка спецслужбы загаварылі ў канцы кастрычніка. Першапачаткова гаварылі на былога начальніка ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці. Але памылкова. У камітэце ж адмаўляюць сам факт самагубства сярод супрацоўнікаў. І нічога не каментуюць.

Аднак рэпарцёры сайта «Хартыя-97» знайшлі свежую магілу на Тарасаўскіх могілках, што ў Мінскім раёне, а на ёй вянкі — ад калег з Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

Што здарылася з маладым яшчэ палкоўнікам Аляксандрам Казаком? Суседзі па Ждановічах, дзе ён жыў, кажуць, што іх апытвала міліцыя. Дазнаваліся, ці чулі яны «стрэл» 11 кастрычніка. Пішуць, што цела мужа знайшла жонка ў суседнім ляску. Ці гэта значыць, што сілавік застрэліўся з паляўнічай стрэльбы, ці яго застрэлілі? Суседзі схіляюцца да першага.

Аляксандру Казаку было 47 гадоў.

Каля дзесяці гадоў Казак быў начальнікам КДБ па Мінскім раёне. Пасаду атрымаў як павышэнне пасля працы ў Службе ўласнай бяспекі камітэта (СУБ) — займаўся справамі службістаў: каб не кралі, не бралі хабар... Але сёлета яго панізілі — стаў кіраўніком сектара ўсяго з некалькімі падначаленымі.

У сілавых структурах нагадваюць, што пасля 2006 у КДБ прыйшлі прафесійныя вайскоўцы, пачалася замена кадраў і ўзмацнілася барацьба з карупцыйнымі праявамі.

Кастусь Матушыч


**Гэты малады чалавек быў затрыманы па падазрэнні ў здзяйсненні гвалтоўных дзеянняў сэксуальнага характару. Падчас разбіральніцтва ён заявіў, што здзейсніў больш за 20 такіх нападаў у мінскіх раёнах Кунцаўшчына, Каменная Горка, Захад, Сухарава. Выбраўшы ахвяру, ён спрабаваў памацаць яе за інтымныя месцы. Пакуль у міліцыю звярнуліся восем яго ахвяр. Фрунзенскі РУУС Мінска расшуквае іншых жанчын, якія маглі пацярпець ад гэтага чалавека. Тэлефанаваць на нумары: (017) 252-58-96, (044) 755-08-62.**

## Сцісла

### Падпаліла дом каханага

У вёсцы Дуброўка Крупскага раёна жанчына наўмысна падпаліла дом, у якім жыў каханы. Яна разлічвала, што мужчына перабярэцца жыць да яе, калі страціць сваё жытло. Цяпер наўрад ці. Супраць жанчыны распачата крымінальная справа за наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці. І на бліжэйшыя дзесяць гадоў яна можа трапіць у калонію.

### Разбойны напад на таксіста

4 лістапада ў Барысаве ўначы на 48-гадовага таксіста напалі мужчыны, якіх ён падвозіў на сваім аўтамабілі. На шыю кіроўцу тыя накінулі пятлю і паспрабавалі ўгнаць машыну. Барысавец даў адпор нападнікам, і тыя разбегліся. Па падазрэнні затрымалі 19- і 21-гадовага хлопцаў, якія нідзе не працуюць.

### Замаскіравалі кантрабанду дровамі

У вялікіх паддонах звонку былі дровы, а ў сярэдзіне — цыгарэты. У Віцебскай вобласці затрымалі цэлы вагон кантрабандных тытунёвых вырабаў. У грузавым вагоне, адпраўленым з Полацка ў Даўгаўпілс (Латвія), выявілі ўтоеныя ад мытнага афармлення пару соцень тысяч цыгарэт. Па дакументах яны перавозіліся пад выглядам дроваў.

### Хабар для ДАІшніка

У Калінкавічах затрыманы нецвярозы кіроўца «Лексуса» папрасіў супрацоўніка ДАІ адпусціць яго дадому без пратакола. Такую паслугу кіраўнік адной з мясцовых фірм ацаніў у $300. Грошы ён паклаў у попельніцу службовага аўтамабіля. Заведзеная крымінальная справа за дачу хабару.

КМ

# Прэм’ера «Местачковага кабарэ»: «Блакітны агеньчык» 1930-х

**Мікалай Пінігін** паставіў у Купалаўскім чыстую забаву.

Да прэм’еры «Местачковага кабарэ» рыхтаваўся тэатр, рыхтавалася і публіка.

Бо рэжысёр Мікалай Пінігін мусіў зрабіць нешта зусім незвычайнае — паказаць жыццё Заходняй Беларусі праз кабарэ са спявачкамі ў бліскучых строях, імпазантнымі мужчынамі ў фраках і смокінгах, канканам і бурлескам. Было анансавана, што бард Віктар Шалкевіч спецыяльна прыязджае з Гродна ў Мінск ды будзе граць у спектаклі.

Зала была бітком. Прыйшлі як прадстаўнікі ўлады (Ярмошына, Тозік, Латушка), так і незалежнага грамадства (Арлоў, Лабадзенка з жонкай Таццянай Шапуцькай, Мазынскі).

Сюжэт такі. Маладыя Анэля і Гелена пераконваюць сваю маці, што настаў новы час (з Варшавы да Парыжа можна дабрацца за пяць дзён!). Гэты час прынёс новыя танцы, хай старэйшаму пакаленню яны і падаюцца распуснымі. Паненкі ўгаворваюць маму паглядзець на свае вочы, што ж такое кабарэ. І жанчына ў захапленні ад убачанага.

На гэтым сюжэт сканчаецца. Далей гледачам прапануецца «блакітны агеньчык» 1930-х, калі такі можна сабе ўявіць. Менавіта савецкі забаўляльны «агеньчык», а не кабарэ. Бо кабарэ ў лёгкай форме высвятляла актуальныя грамадскія праблемы. Дзяржаўнаму тэатру ў аўтарытарнай краіне гэта не дазволена.

Але самі нумары цудоўныя: была паненка ў роспачы, што згубіла пярсцёнак, з лёгкімі элементамі стрыптызу (Ганна Хітрык). Былі імпазантныя паны ў фраках. Былі хітрыя яўрэі (Віктар Манаеў і Сяргей Журавель) з залатымі гадзіннікамі, якія падчас сваіх шмонцэсаў тлумачылі прычыны сусветнага фінансавага крызісу — зала рагатала. Была дасціпная «Крыжаванка» ад Паўла Харланчука.

Адной з фішак стаў «Цыганскі раманс» (Ганна Хітрык і Марта Голубева), праспяваны на ідышы. Пад яго ці не ўсёй зале хацелася далучыцца да ромскіх танцаў. Быў і непрыстойны ў тыя часы канкан (Святлана Зелянкоўская, Ганна Хітрык, Вікторыя Чаўлытка) з гарэзлівай дэманстрацыяй элегантных ножак у панчохах.

Быў, нарэшце, і Шалкевіч са старымі песнямі «Яна — праваслаўная, я — каталік», патрыятычнае танга «Цнота»...



На жаль, нанізаць раскіданыя перліны музычных замалёвак, жартаў і танцаў на нітку нават самага простага сюжэта рэжысёру не ўдалося. Выйшла зборная «салянка».

Калі трэба прабавіць вечар, дык «Кабарэ», несумненна, дасць фору любому бязглуздаму амерыканскаму баевіку. Але не чакайце ад яго адкрыцця.

**Кірыла Хілько, Зміцер Панкавец**

# «Лазніца дадаў эпізоды, якіх у Быкава няма»

Пра адкрыцці кінафестывалю «Лістапад-2012» расказала кіназнаўца **Наталля Агафонава**.

«За апошнія гады «Лістапад» палепшаў, — лічыць спадарыня Наталля. — Пашырылася геаграфія, развіваецца структура. За тыдзень дэманструюць 350 стужак. Адзінае, што псуе карцінку — афіцыёзныя мераприемствы, кшталту адкрыцця. Дый сам Палац Рэспублікі выглядае надта пафасным. Але хочацца выказаць вялікую падзяку Ігару Сукманаву і Ірыне Дзям’янавай, якія стварылі праграму, — гэта ў Беларусі каштуе шмат высілкаў».

**Трыумф Лазніцы**

Галоўнай прэм’ерай «Лістапада» стаў фільм Сяргея Лазніцы «У тумане» паводле аповесці Васіля Быкава. У яго здымках удзельнічаў «Беларусьфільм». Стужка (упершыню за гісторыю беларускага кіно) трапіла ў конкурсную праграму Канскага кінафестывалю. На прэзентацыю фільма было немагчыма здабыць квіток.

**Яшчэ можна паспець на Ханэке**

Апошнія квіткі застаюцца на фільм, які закрые фестываль, — «Каханне» найвыбітнейшага аўстрыйскага рэжысёра Міхаэля Ханэке. Гэта гісторыя цяжкахворай 80-гадовай жанчыны і яе мужа, які кідае працу, каб даглядаць за жонкай.

**Наталля Агафонава**

Кіназнаўца, сябра журы кінафестывалю «Лістапад-2012».

**«НН»: Якія фестывальныя фільмы найбольш вартыя?**

**Наталля Агафонава:** Абавязкова варта глядзець маладое малабюджэтнае кіно. Вельмі цікавыя фільмы Лацінскай Амерыкі — «Чока» з Калумбіі, «Дзікуны» з Аргенціны, «Амерыкана» Мацьё Дэмі — сына славутых кінематаграфістаў Жака Дэмі і Аньес Варда. Фільм пабудаваны на высокай эмацыйнасці і вельмі далікатна інкруставаны рэверансамі ў бок творчасці бацькоў.

Уразіў латвійскі фільм «Крутая колка». Чорна-белы, вельмі доўгі, і нельга сказаць, каб у яго быў нейкі сюжэт. Фільм пра будзённае жыццё ў правінцыі. Моладзь п’е, б’ецца, на працу не ходзіць. Час там спыніўся, тое самае адбываецца і ў беларускай глыбінцы.



**Традыцыйны пачатак фэсту: кіраўнік Белдзяржтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька б'е талерку аб кінаапарат.**

**На адкрыцці «Лістапада» па-беларуску гаварыла толькі казашка**

На адкрыцці фестывалю беларуская мова прагучала толькі раз: з вуснаў актрысы Лінды Нігматулінай з Казахстана.

**XIX міжнародны кінафэст «Лістапад»**

праходзіць у Мінску 2—9 лістапада. У праграме — 350 фільмаў.

**«НН»: Адным з цвікоў «Лістапада» стала прэм’ера «У тумане» Лазніцы — фільм паводле Быкава сустрэлі авацыяй...**

**НА:** Мяне асабіста ён не ўразіў. Лазніца любіць Быкава, дакладна яго чытае, у фільме шмат цікавых нюансаў: напрыклад, планы «з патыліцы» (выходзіць такое сабе жыццё пад прыцэлам). Ці «суб’ектыўная камера» — калі выява трасецца. Добра зроблена.

Лазніца дадаў у тэкст Быкава эпізоды, якіх у аповесці няма, але па сутнасці яны быкаўскія. Напрыклад, калі пад ахон пускаюць цягнік, у якім вязуць дзяцей, прычым дзяцей «нашых». І Лазніца бачыць у Быкаву ў першую чаргу экзістэнцыяліста, які паказвае абсурд гераізму, як і абсурднасць жыцця. Фінал Лазніца таксама дадае ад сябе, але гэта зроблена ў стылістыцы Быкава. Лазніца доўга марыў зняць гэты фільм.

**«НН»: Лазніца падбіраў галоўнага героя па тыпажы…**

**НА:** Тыпажы падабраныя выдатна, аднак акцёры не змаглі «пражыць» сваю ролю — не хапае пераўвасаблення. Бачна, што гэтая праблема ім не блізкая. Відаць, Другая сусветная вайна перастала быць праблемай. Ніхто ж не разважае пра вайну 1914-га. Гэта аб’ектыўны працэс, звязаны з часам. Таму глядзіш на экран і, як казаў Станіслаўскі, не верыш.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

# «Калі ты вораг, чаму друкуешся ў дзяржаўным часопісе?»

У **Андрэя Федарэнкі** выйшла кніга мініяцюрных эсэ.

«Адзін аўтар, буйны графаман (графаманы дзеляцца на ціхіх і буйных), крычаў:

— Якое ты маеш права мяне рэдагаваць, калі тэксты мне дыктуе сам Гасподзь?!

— У такім разе я вымушаны рэдагаваць самога Госпада, — адказваў я. — Або ён дыктуе вам з памылкамі, або вы кепска расчуваеце яго дыктоўку».

Гучыць як анекдот. Але аўтар запэўнівае, што гэта рэальнасць ягонай рэдактарскай працы.

«Сечка» — не забаўляльнае чытво, складзенае толькі з анекдотаў ці пацешных гісторый.

Гэта думкі, назіранні пісьменніка, якія не развіваюцца да апавяданняў, асобных сцэн у большай прозе. Іх можна было б акрэсліць як дзённікавыя запісы без датаў.

Гэта магчымасць падгледзець за аўтарам: пра што ён думае паміж напісаннем «Вёскі», «Афганскай шкатулкі», «Нічыіх»... І аказваецца, што гэта спрэс праца са словам, літаратура.

Яму няясна, чаму пішацца *наведвальнік*, калі прыгажэй — *наведнік*; *двукоссе*, а не *лапкі*. Абураецца, калі слоўнікам замацавана *лЯмпа*, але *лАмпада*. Чаму *чацвярГа*, але не *чацверКа*...

Андрэй Федарэнка — чалавек непублічны. На прэзентацыі «Сечкі» ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры ён сядзеў з апушчанай галавой, бо, відаць, няёмка пачуваўся перад дзясяткамі дапытлівых вачэй прысутных. Людзі чакалі ад яго любога слова, а яму зручней пісаць.

І «Сечка» — гэта тое, пра што пісьменнік мог бы расказваць на сустрэчах з чытачамі. Але ён аддае перавагу напісанню, калі кожнае слова можна абдумаць. Бо для яго, як падаецца, непрымальна, каб апублікаваць прахадны тэкст. Таму нават «дробная сечка» — не адпіска, што з’явілася паміж «дарослымі» кнігамі прозы, а такая ж літаратурная праца.

А заканчваецца кніга лістом-даносам аднаго з чытачоў «Маладосці», які абураны апавяданнем Федарэнкі, надрукаваным у часопісе. «Калі ты вораг, то чаму друкуешся ў дзяржаўным часопісе?» І гэта не атавізм 1930-х, а рэальнасць.

**Сяргей Макарэвіч**

**Сечка. Андрэй Федарэнка.** — Мінск: «Галіяфы», 2012.

# «На родную мову перайшоў прынцыпова»

31 кастрычніка споўнілася б 75 гадоў **Яўгену Куліку**.

У самым пачатку 1960-х у лёсе Яўгена Куліка адбыўся пераломны момант — ён перайшоў на беларускую мову, — расказвае сястра вялікага мастака Тамара.

«Ён зрабіў гэта прынцыпова, калі па-беларуску ў горадзе размаўлялі лічаныя людзі. Гэта быў мужны крок. Проста адчуў сябе беларусам, зразумеў, колькі ўсяго каштоўнага і неацэненага ў беларускай культуры і гісторыі».

Яўген Кулік — эпахальны беларускі творца. Якім ён быў у жыцці? Тамара Сяргееўна падзялілася ўспамінамі з «НН».

«Сям'я ў нас вельмі простая, звычайная, — узгадвае спадарыня Тамара. — Бацькі былі неадукаваныя, дзякуй Богу, дзеці адукацыю атрымалі. Мама, Вольга Антонаўна, скончыла курсы лікбезу ў 20-я, бацька, Сяргей Гаўрылавіч, — два класы царкоўна-прыхадской школы. Дзяцей у сям'і было трое. Я была наймешая, мяне замыкалі ў хаце, калі ўсе сыходзілі. У мяне з Яўгенам розніца — шэсць гадоў, і ён апекаваўся мною. Пакідаў сшыткі даваў мне заданне: прапісваў некалькі старонак з кручкамі і палачкамі, і я ўсё гэта перапісвала. А ён пасля ставіў мне адзнакі. Таму ў першы клас я прыйшла падрыхтаваная».

Схільнасці да мастацтва з'явіліся ў Яўгена Куліка з самага дзяцінства.

«Старэйшая сястра расказвала: у вайну сям'я наша жыла на рагу Інтэрнацыянальнай і Камсамольскай, у старым доме з вельмі шырокімі падваконнямі, — кажа спадарыня Тамара. — Паперы не было, дык Яўген маляваў на падваконні. Пасля мама змывала, і ён ізноў маляваў. Шкада, не захаваўся Яўгена ў дзіцячы агульны сшытак, там на кожнай старонцы былі яго малюнкі. Там быў выдатны партрэт Гогаля. Школьнікам ён хадзіў у мастацкі гурток пад кіраўніцтвам Алега Луцэвіча. Падчас хваробы Яўген узяў з сабой у шпіталь альбом і алоўкі, а вынікі пасля паказаў кіраўніку, і той надта ўразіўся. Падарыў Яўгену пэндзлікі і фарбы. Тады гэта было асабліва каштоўна».

Не менш, чым малюнкамі, Яўген цікавіўся кнігамі.

«Чытаў усё, што пад руку траплялася, — усміхаецца сястра. — Пасля вайны везлі неяк кнігі на макулатуру на вялікім возе. Дык Яўген бег за возам і выдзёргваў кнігі адну за адной. Ці яшчэ, памятаю, як вяртаўся са школы: ідзе і чытае. Прыпыніцца, стаіць і прачытвае чытаць».

**Яўген Кулік**

Нар. 31 кастрычніка 1937 у Мінску. Мастак, вядомы найперш стварэннем эталона герба «Пагоня», графічнымі серыямі «Помнікі дойлідства Гродзеншчыны», «Замкі Беларусі», «Паўстанне 1863 г. у Беларусі». Аформіў дзясяткі кніг, у тым ліку «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага. Яшчэ ў савецкі час Майстэрня Куліка «На паддашку» (на сённяшнім праспекце Незалежнасці, насупраць КДБ) стала месцам збору дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі. Памёр Яўген Кулік 12 студзеня 2002 года. Яму было 65 гадоў.



Тамара Сяргееўна, сястра мастака.



Яўген Кулік. Скульптура Льва Гумілеўскага.

Праз гэта Яўген Кулік стаў сапраўдным эрудытам. Спадарыня Тамара ўзгадвае: як яны глядзелі першыя выпускі «Што? Дзе? Калі?», дык Яўген адказваў на ўсе пытанні, апроч вузканавуковых. Ці мог тыдзень разгадваць крыжаванку, каб у ёй не засталося ніводнага неразгаданага слова, шукаў адказы ў кнігах.

Спадарыня Тамара паказвае кнігі, праілюстраваныя Яўгенам. Асаблівую ўвагу надае «Песні пра зубра». Гусоўскі на партрэце — як дзве кроплі вады падобны да мастака. Паэма натхняла, ён працаваў з вялікім захапленнем. З большай самааданасцю працаваў хіба толькі над эталонам «Пагоні».

«Для нас тое, што эскіз Яўгена стаў эталонам, было вялікай радасцю, вялікім гонарам, — кажа сястра. — У 1991 годзе, калі Беларусь аднавіла незалежнасць, паўстала пытанне пра новую дзяржаўную сімволіку. Увазе камісіі былі прапанаваныя некалькі варыянтаў «Пагоні», найлепшым з якіх прызналі эскіз майго брата. Такую адказную справу нельга было зрабіць без абмеркавання з калегамі, без кансультавання з гісторыкамі. Вялікую дапамогу ў гэтай працы Яўгену аказаў Уладзімір Крукоўскі, за што брат быў яму вельмі ўдзячны».

Першая персанальная выстава Куліка адбылася ў 2004 годзе — праз два гады пасля яго смерці. Гледачоў уразіла рознабаковасць яго таленту.

«Яўген быў вельмі сціплы чалавек, — кажа спадарыня Тамара. — Вельмі добразычлівы, неканфліктны. Я не памятаю, каб мы калі-небудзь сварыліся, магчыма , у дзяцінстве. Ён, калі трэба якая дапамога, хоць ноч на гэта заб'е, але зробіць, што трэба. Ён быў мне не толькі брат, але верны-верны сябар. Калі ён памёр, быццам зямля абрынулася».

**Гутарыў Юрась Ускоў**

# Беларуская глыбіня. **Наш Папанаў**

Піша **Павел Севярынец**.

*Такі род усіх, што шукаюць Яго... Псальма 23:6*

Пакутлівы, грубаваты твар, страшэнна цяжкі басавіты голас, фрыкатыўнае «гэ», «у» — не столькі кароткае, колькі глыбокае — «гу!» — і раптам мілая, жаласлівая ўсмешка, якая ўмомант ператварае пачвару ў дзіця, гатовае заплакаць, ці то ад шкадавання, ці то ад шчасця...

«Беларускі вакзал», «Брыльянтавая рука», «Сцеражыся аўтамабіля», «Халоднае лета 53-га»... Пэўна, не ў аднаго мяне Анатоль Папанаў на экране выклікаў нечаканае адчуванне роднасці, цеплыні.

Цяпер я ведаю, чаму.

Матуля Анатоля Папанава, Алена Баляслаўна Раўкоўская — адсюль, з беларускай глыбіні, з вёскі Няхачава, што непадалёк ад трасы Мінск—Брэст ля Івацэвічаў.

Менавіта маці, каталічка, выхавала Анатоля вернікам. Ці выпадкова, што праз сто гадоў маленькая кропачка на мапе Беларусі, Няхачава, застаецца гарчычным зернем веры, здольным перасоўваць горы: якраз тутэйшая евангельская царква стоўпа ладзіць летнікі з удзелам соцень маладзёнаў.

Тут дагэтуль памятаюць, як Папанаў прыязджаў да сваякоў — у мясціны, адкуль знакамітае «гэ», ёмістае «о» і густы басавіты нязлосны рогат. Во было дзіва для дэлегацыі з «Масфільма», што прыязджала сюды ў адведкі. Мы, кажуць, думалі, што знакамітае папанаўскае вымаўленне — геніяльная знаходка самога актора. А ў вас тут, бач, усе як Папанаў размаўляюць!..

О, гэта Папанаў размаўляў, як усе.

Каб штосьці разумець пра Папанава, трэба ведаць ягонага дзядзьку, Мікалая Раўкоўскага, каторы за палякамі быў ляснічым. У 1939-м, пасля «вызвалення» Заходняй Беларусі, яго разам з сям'ёй пагрузілі на станцыі Няхачава ў таварны вагон і павезлі ў Архангельск. Дарогаю ад халадоў загінулі двое ягоных дзяцей. З-за гэтага ўсесаюзны ўлюбёнец Папанаў так і не ўступіў у КПСС. І ці не гэтыя перадсмяротныя дрыжыкі двух беларускіх дзетак прабіраюць, калі глядзіш на апошнюю ролю Папанава — зэка Капалыча ў антысталінскім «Халодным леце 53-га»... Стужку давялося агучваць ужо іншаму: у Папанава не вытрымала сэрца. Прыехаў са здымкаў, зайшоў дахаты памыцца, гарачай вады не было, палез з хворымі сасудамі пад халодную...

Тыя, хто яго добра ведаў, згадваюць: нетыповы быў для сталічнага артыста. Сціплы, нават пакорлівы нейкі. Сарамлівы. На вяршыні кар'еры па галовах не ўзбіраўся, а ціха рабіў сабе — і трапляў у сэрцы мільёнам.

Беларус, адно слова.

Ды і лёс Папанава — рыхтык беларускай цяжкасці, трываласці і цярпення. Працаваў ліцейшчыкам і адначасна займаўся ў тэатральнай студыі. З першых дзён вайны — на фронце, старшым сяржантам. У 1942-м цяжка паранены пад Харкавам... І пасля перамогі, у паўгаладнай Маскве, — тэатр.

Вобразы Папанава — той самы наймацнейшы сплаў стоенай моцы і пакорлівасці, пакут і радасці, жалю і іроніі, грымотнага смеху і ціхайціхай жыццёвай праўды — які і выяўляе сутнасць беларускасці.

Вось Мікалай Іванавіч Дубінскі, стары франтавік з «Беларускага вакзала». Вось Сокал-Кружкін, цесць Сяміцветава ў «Сцеражыся аўтамабіля» з тыпова тутэйшым: «Цябе пасадзяць, а ты не варуй!» Вось у Кісу Вараб'янінаву, узеным прадвадзіцелі дваранства з «12 крэслаў» Марка Захарава, рысы ганарыстай — матчыны гены! — засцянковай шляхты. І вядома, цэлы іскрысты россып у «Брыльянтавай руцэ», які ціхацяць усімі водблiскамі сённяшняй рэчаіснасці.

«Как гаварыт наш дарагой шэф, если чалавек ідзіот, то эта надолга!» «Будзе табе там і ванна, будзет і кофа, будзет і какава з чаем!..» І, нарэшце, «Штоб ты жыў на адну зарплату... Што б ты здох!... Што б я відзеў цібя ў грабу... у белых тапках...» Ну вось жа ён, усенародны ШОС!..

Нават злачынцы, мярзотнікі і вылюдкі, якіх даводзілася граць або агучваць у анімацыі Папанаву, няўзнак ператвараліся ў трагічных персанажаў і выклікалі жаль: шэрыф Нотынгема ў «Робін Гудзе», тыгр Шэр-Хан у Маўглі, Гітлер у «Швейку на Другой сусветнай вайне» і, безумоўна, знакаміты воўк з «Ну, пачакай!».

І як жа пранікнёна граў Папанаў беларуса — Дзеда Цыбульку ў Макаёнкаўскай «Таблетцы пад язык»... А яшчэ — героя ў «Гора ад розуму» нашчадка ліцвінскай шляхты Грыбаедава... А яшчэ — Васіля Цёркіна («Цёркін на тым свеце») смаленскага беларуса Аляксандра Твардоўскага...

Глядзіш, пераглядаеш кадры з Папанавым, перабіраеш родныя-родныя ноткі і толькі ківаеш галавой здзіўлена: як удалося праз беларускасць перадаць чалавечнасць, не запэцкацца ў маскоўскіх інтрыгах ды ўсхваленых уладах зла таму, каму ў свой час матуля-беларуска разам са шляхетнасцю і моваю перадала веру ў Бога!

*Куплін*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**«Мы думалі, папанаўскае вымаўленне — геніяльная знаходка актора. А ў вас тут усе як Папанаў размаўляюць!..»**

# Застацца беларусам у ЕС. Тры гісторыі

Як беларусы **захоўваюць культурную адметнасць** у Польшчы. Піша Аксана Рудовіч.

Яны жывуць па той бок Белавежскай пушчы, за Заходнім Бугам і шэнгенскай мяжой. «Наша Ніва» пабыла ў гасцях у беларусаў Падляшша — тэрыторыі на захадзе былога Вялікага Княства Літоўскага, якая цяпер знаходзіцца ў складзе Польшчы.

### «Калі мне споўнілася 50, вырашыў ажаніцца»

Высокі сівы мужчына з тоўстымі акулярамі на носе басам напявае калыханку. Ну проста замілаванне: доктар навук Алег Латышонак люляе 4-месячнага сына Клімента.

«Пра стварэнне сям'і я ўпершыню сур'ёзна задумаўся ў 50 год», — прызнаецца гісторык. Сваю другую палову, латышку Санду, сустрэў на фестывалі беларускай песні ў Бельску-Падляскім. Такая вось міжнацыянальная любоў.

На тым фестывалі Алегу з Сандай дасталася роля маладой пары ў інсцэнізацыі паляшуцкага вяселля. «Так гэта нам спадабалася, што рашылі ўжо ўсур'ёз узяць шлюб», — дзеліцца Латышонак гісторыяй свайго кахання.

Латышонак-малодшы з'явіўся на свет 9 мая 2012 года. «Дзядзька маёй жонкі прасіў, каб толькі не 9 мая, ён такі латыш!» — смяецца гісторык. Але ж прыродзе не прыкажаш. Як казаў тады яго сябра: «Гэта дзень тваёй перамогі».

Кім назаве сябе Клімент, калі вырасце — беларусам, палякам, латышом ці кімсьці іншым, — пакажа час.

А для сябе Алег ужо даўно вырашыў: «Я беларус і ўсё, не магу быць нікім іншым. Не магу быць палякам, бо я не паляк».

Алег Латышонак нарадзіўся ў 1957 годзе ў Эльблонгу, што на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Затым сям'я Латышонкаў пераехала ў Беласток, да «сваіх». Бацькі імкнуліся даць дзецям патрыятычнае выхаванне. Алег узгадвае, што на сямейных сустрэчах, «калі ўжо чарак некалькі пайшло, мы ведалі, што нас паклічуць прачытаць нешта накшталт «каб любіць Беларусь нашу мілую».

Бацька Алега захапляўся гісторыяй, але абраў больш надзейную прафесію інжынера. Затое сын стаў доктарам гістарычных навук.

Латышонак узначальвае Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку, ён аўтар знакавых кніг «Нацыянальнасць — беларус», «Жаўнеры БНР».

Ці можна жыць за межамі Беларусі і працаваць для Беларусі? «Так, можна. Але гэта не выхад для нацыі, — падкрэслівае гісторык. — Проста гэта выхад асабісты для чалавека, для групы людзей. А цяпер бачу, што выпіхваюцца беларусы па-за межы краіны».

«Шанцаў, што я дажыву, каб Беларусь выглядала так, як я бы хацеў, практычна няма... Але гэта нікога не вызваляе ад адказнасці і нікому не забараняе верыць у тое, што Беларусь будзе», — падагульняе Латышонак.



Ілона Карпюк запісалася беларускай.



Доктар Латышонак з сынам Кліментам.

### «Бабця, гаварыце па-свойму, усё разумеем»

Абмеркаваўшы лёс краіны і свету на дачы Латышонка ў Супраслі ды паеўшы смачных «латышонкаўскіх» яблыкаў, вяртаемся ў Беласток. Наступную гераіню, 30-гадовую Ілону Карпюк, мы сустрэлі ў новым будынку беластоцкай Оперы — ультрасучасным гмаху. З нядаўняга часу Ілона працуе тут менеджарам культурных праектаў.

«Найбуйнейшая інвестыцыя ў галіне культуры ва ўсім Еўрасаюзе», — кажа Ілона пра новы «Оперны». На першы погляд — вар'яцтва: мільёны еўра ЕС «убухаў» у будаўніцтва такога аб'екта ў правінцыйным Беластоку. Але з іншага боку, кажа Ілона, будынак новай оперы мае яшчэ адну назву: «Еўрапейскі культурны цэнтр». Тут будуць праходзіць міжнародныя фестывалі. Лічы, культурны мост між Усходам і Захадам.




Урок беларускай мовы ў беластоцкай школе №4.

Опера стала асяродкам беларускага культурнага жыцця — яна прымала сёлета «Бардаўскую восень», тут музыкі агучвалі класіку беларускага нямога кіно 1920-х...

Ідзём дадому да Ілоны. Утульная двухпакаёўка ў цэнтры горада, непадалёку ад працы. Калі маладая сям'я вырашала, дзе жыць — у вялікай кватэры на ўскрайку альбо меншай у цэнтры, — выбралі апошняе. Дома чакаюць муж Радаслаў Дамброўскі і маленькі сын Лёва. Сярод кніг, якіх у Ілоны і Радака нямала, заўважаем дзіцячую «Як выскочыв воробей», вершы і казкі на падляшскім дыялекце.

Сама Ілона родам з Гайнаўкі. Гэта мястэчка ў Беластоцкім ваяводстве, за дваццаць кіламетраў ад мяжы з Беларуссю. Ілона згадвае, што ў дзяцінстве бацькі размаўлялі з ёй па-польску, а са сваімі бацькамі — па-беларуску.

Ці не падобная сітуацыя да нашай, калі бацькі вучаць дзетак расейскай, але «звонкае «дзе» і густое «чаго» даходзіць да малых ад дзядоў?

«Памятаю, у час канікул прыязджалі са стрыечнымі братамі да бабулі. І так складана ёй было па-польску гаварыць, але спрабавала: «Цо хцэце з'есць на снаданне?» Мы ў пэўны момант сказалі: «Бабця, гаварыце па-свойму, усё разумеем».

Далей была вучоба ў беларускім ліцэі. Шматлікія этнаграфічныя летнікі і «зімнікі» канчаткова сфармавалі нацыянальную пазіцыю дзяўчыны. Падчас перапісу насельніцтва ў 2002 годзе Ілона пыталася ў бацькоў, кім яны сябе запішуць. «Для сябе я ўжо ведала, што запішуся беларускай».

У музычных колах Ілону ведаюць як вакалістку гурту Ilo&friends. Гурт — часты ўдзельнік мясцовых фестываляў. Сёлета гралі на «Басовішчы». «Ад самага пачатку я спяваю па-беларуску. Ёсць, напэўна, усярэдзіне патрэба захоўваць гэту нашу беларускую мову, пачуццё такой грамадскай місіі нашай тут, на Падляшшы», — кажа Ілона.

Беларусаў на Беласточчыне і ўвогуле ў Польшчы не так шмат. Таму, на думку дзяўчыны, «гэтай беларускай мовай трэба ганарыцца, паказваць, што яна ёсць жывой, а не мовай, якая неўзабаве пойдзе ў забыццё».

### «Пагоня» ў кабінеце беларускай мовы

Ці ёсць у Беларусі хоць адна школа, дзе было б такое? А вось у вучняў пачатковай школы №4 горада Беластока ў кабінеце беларускай мовы і сімвалы нацыянальныя ёсць, і нават шалік «Жыве Беларусь».

Праўда, пачаткоўцы пакуль цьмяна ўяўляюць, што гэта за сімвалы і што за мова, якую яны вывучаюць пару разоў на тыдзень — ім бы пагойсаць на калідоры ды пагуляць.

Каб справіцца з малымі гарэзамі, настаўніца Аліна Ваўранюк танчыць, спявае і пляскае ў ладкі на ўроку разам з дзецьмі.

У школе, дзе працуе Аліна, прадмет «беларуская мова» наведваюць 74 вучні. Пераважна гэта дзеці мясцовых беларусаў, якія маюць «сантымент да беларускасці», як кажа жанчына. Апроч гэтага, у Беластоку ёсць праваслаўная школа імя Кірылы і Мяфодзія, гімназія, ліцэй і дзіцячы сад, дзе таксама вывучаецца наша мова.

Неяк Аліна з вучнямі ездзіла на экскурсію ў Гродна. У адной краме прадавачка звярнулася да дзецей, каб не чапалі тавары, ды тыя ніяк не адрэагавалі. Аліне давялося тлумачыць жанчыне, што дзеткі проста не зразумелі яе просьбы па-расейску.

Каб спрыяць навучанню дзетак беларускай мове, шэсць гадоў назад найбольш актыўныя бацькі стварылі суполку «АБ-БА», што значыць «аб'яднанне бацькоў». Аліна — намесніца старшыні гэтай суполкі. Займеўшы афіцыйную рэгістрацыю, «АББа» змагла карыстацца падтрымкай не толькі прыватных спонсараў, але і грашовай дапамогай Еўрасаюза. Дзякуючы гэтаму, пабачылі свет кнігі і кампакт-дыскі, дзіцячыя настольныя гульні на беларускай мове і паказны алфавіт. Школцы цяжка было б без усяго гэтага працаваць.

Усе продкі Аліны нарадзіліся на Беласточчыне, на тэрыторыі сучаснай Польшчы. «Напэўна, мая краіна і мая радзіма — гэта Польшча, — кажа жанчына. І дадае:

— Але духоўная айчына, безумоўна, — Беларусь».

**Беласток — Мінск**

## ІМПРЭЗЫ

### Лістапад-2012



**Да 9 лістапада працуе XIX Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад».** Пакажуць карціны з 43 краін. Білеты коштам ад 50 да 110 тыс. рублёў можна набыць у касах Палаца Рэспублікі, а таксама на сайце kvitki.by.

### Першы дабрачынны Палацавы баль

**10 лістапада ў Нясвіжскім замку пройдзе баль.** Залы палаца — Залатая, Тэатральная, Гетманская, Паляўнічая — прапануюць разнастайныя танцавальныя, музычныя, тэатральныя і касцюмаваныя імпрэзы. Пачатак а 19-й.

## КАНЦЭРТЫ

### Віктар Шалкевіч

**25 лістапада ў Палацы культуры імя Шарко (Уральская, 3)** — вядомы бард і актор Віктар Шалкевіч з новымі і лепшымі песнямі. Пачатак а 19-й.

### Прыязджае Papa Roach

**8 лістапада ў клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** — лідары сусветнага рэп-кора і альтэрнатыўнага рока, амерыканскі гурт Papa Roach. Білеты — ад 450 тысяч рублёў. Пачатак а 19-й.

### The Toobes

**10 лістапада гурт The Toobes** выступіць у клубе Re:public «з вялікім феерычным канцэртам». Пачатак а 20-й.

### Паліна Рэспубліка, «Голая манашка» — акустыка

**11 лістапада ў клубе «Салтайм» (Незалежнасці, 131/1)** пройдзе дабрачынны канцэрт «Жоўты дом». Заспяваюць барды Паліна Рэспубліка і Каця Гузоўская-Гара, гурт «Голая манашка», спецыяльныя госці — тэатр лялек «Дом сонца». Гледачы могуць прынесці непатрэбныя рэчы, якія атрымаюць другое жыццё на занятках у творчых майстэрнях для людзей з псіхічнымі захворваннямі. Пачатак а 19-й.

### Бі-2 у Мінску і Бабруйску

**Расійскі гурт «Бі-2» завітае ў Беларусь** падчас тура ў падтрымку новага альбома Spirit. 11 лістапада а 19-й Лёва і Шура выступяць на гістарычнай радзіме, у Бабруйску («Бабруйск-Арэна»), 12 лістапада а 20-й — у мінскім Палацы Рэспублікі.

### Эдзіта П'еха

**14 лістапада легенда савецкай эстрады Эдзіта П'еха** святкуе ў Мінску (хто б падумаў!) 75-годдзе і 55-годдзе творчай дзейнасці. Канцэрт зоркі польска-французскага паходжання пройдзе ў КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5). Пачатак а 19-й.

### Стары Ольса

**17 лістапада ў Палацы культуры ветэранаў (Купалы, 21)** — выступае гурт сярэдняевечнай музыкі «Стары Ольса». Пачатак а 19-й.

### «Уаём дык уаём»

**12 лістапада ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — пераможцы «Басовішча-2011», гурт Yellow Power, разам з гуртом «Пацукі» з праграмай «Уаём дык уаём». Пачатак а 18-й.

### Музыка Нясвіжскага Замка

**11 лістапада ў ДК Прафсаюзаў (пр.Незалежнасці, 25)** ансамбль старадаўняй музыкі «Кантабіле» выступае з канцэртам «Музыка Нясвіжскага Замка». Будуць гучаць творы І.С.Баха, М.Радзівіла, М.К.Агінскага. Пачатак а 18-й.

### DAS FEST / MINSK 2012

**17 лістапада а 18-й у Re:public** — першы ў Беларусі фестываль нямецкамоўнай музыкі DAS FEST / MINSK 2012. Клавішныя Марціна Кілгера, аўтэнтычны Alpenopor Тобіаса Шварц-Гевалігa, ямайскія рытмы Марлона Бі і нямецкамоўнае лацінарэгі Крыса Косма…

### Madera Hard Blues

**17 лістапада ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Madera Hard Blues. Пачатак а 18-й.

### Трыб'ют гурту «Кіно»

**11 лістапада ў Re:public (Прытыцкага, 62)** — трыб'ют гурту «Кіно». Бяруць удзел: кавер-бэнд «Кэпіталз», Раман Арлоў і «Ў нескладовае». Пачатак а 18-й.




**13 лістапада ў мінскім Палацы спорту** ўпершыню выступіць Garbage. Амерыканскі гурт на чале з шатладскай вакалісткай Шырлі Мэнсан наведае беларускую сталіцу з новым альбомам Not Your Kind of People. Гэта пяты студыйны дыск групы, які стаў свайго роду музычным вяртаннем пасля сямігадовага перапынку. Але здаецца, што Garbage непадуладная часу — усё такая ж мініяцюрная і забіяцкая вакалістка Шырлі Мэнсан, строгія і вытанчаныя клавішнік Стыў Мейкер, гітарыст-электроншчык Дзюк Эрыксан і Буч Віг — культавы бубнач і гукарэжысёр 90-х. Пачатак а 20.00.

## ВЫСТАВЫ

### Бялыніцкі-Біруля

**Да 11 лістапада ў Нясвіжскім палацы** працуе выстава з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, прысвечаная 140-годдзю славутага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі (1872—1957).

### 150 гадоў беларускай чыгунцы

**Да 12 снежня ў Гістарычным музеі (Маркса,12)** працуе выстава, прысвечаная 150-годдзю беларускай чыгункі. Сярод экспанатаў: дакументы і фота, узоры формennага адзення работнікаў чыгункі розных часоў, макеты паравозаў, цеплавозаў, разнастайныя прыстасаванні і апараты.

### Ласкутны блюз у доміку РСДРП

**Да 11 лістапада ў Доме-музеі І з'езда РСДРП** працуе выстава твораў майстроў ласкутнага шыцця «Ласкутны блюз». Ласкутная мазаіка — адзін з найцікавейшых відаў сучаснага дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва. На выставе прадстаўленыя аўтарскія працы майстроў ласкутнага шыцця творчай студыі «Хобі-курсы».

## ТЭАТРЫ

### 8 лістапада

**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 9 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 10 лістапада

**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Кашчэй Несмяротны». «Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 11 лістапада

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда». «Серанада». «Балеро»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 12 лістапада

**Лялек** — «Прынцэса і свінапас»
**Беларускай драматургіі** — «Дастаеўскае пытанне»
**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»

### 13 лістапада

**Юнага гледача** — «Пан міністар»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 14 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Купалаўскі** — «Зіма»

### 15 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Лялек** — «Шоўк»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 16 лістапада

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгенды Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Лялек** — «Вянчанне»

### 17 лістапада

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Оперы і балета** — «Рускія сезоны XXI стагоддзя»: Клеапатра-Іда Рубінштэйн. Шапеніяна»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 18 лістапада

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана». «Кармэн-сюіта»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

## КІНО

### Бонд вярнуўся ў дзяцінства

**007: Каардынаты «Скайфал»** (Skyfall)
Вялікабрытанія — ЗША, 2012, каляровы, 143 хв.
**Рэжысёр:** Сэм Мэндэз
**Ролі выконваюць:** Дэніэл Крэйг, Джудзі Дэнч, Хаўер Бардэм, Наомі Гарыс, Рэйф Файнс
**Жанр:** Шпіёнскі баявік
**Адзнака:** 7,5 (з 10)

Невядомыя выкралі спісы агентаў MI-6 і падарвалі будынак брытанскай выведкі. Джэймс Бонд, якога ўсе лічылі загінулым, бярэцца за расследаванне…

Пасля нядаўняга з'яўлення Дэніэла Крэйга ў ролі Джэймса Бонда шпіёнскі эпас ажыў. Джэймс Бонд вяртаецца да старых справаў і выдатна пачуваецца на хмарачосах, залітых штучным святлом. У фільме — высокія тэхналогіі, тэхнічныя гаджэты (пераважна ў ворагаў). Зброя Бонда — ягонае цела і успаміны пра добрую старую Англію.

Сэм Мэндэз рызыкнуў паказаць агента аслабелым алкаголем і ранамі, паказаў ягонае дзяцінства і радавое гняздо. Іншага галівудскага супергероя — Бэтмэна — падобны сюжэт ледзьве не загубіў. Але ў Бонда іншыя звычкі. І ворагі толькі дапамогуць яму «ўваскрэснуць». І хаця для яго ўсё не ўпершыню, такіх ягоных прыгодаў вы яшчэ не бачылі.

**Андрэй Расінскі**



# Беларус з Горак стаў даляравым мільянерам у Маскве

Ён усталёўвае «кнопкі жыцця» ў кватэрах адзінокіх пенсіянераў.

Пра 29-гадовага беларуса Дзмітрыя Юрчанку ўся Расія загаварыла пасля эфіру папулярнага ток-шоу «Хай кажуць». Ён расказаў пра поспех свайго праекта, які дазволіў яму зарабіць мільён даляраў.

Дзмітрый — сын былога дырэктара «Горацкай райаграпрамтэхнікі» Міхаіла Юрчанкі. У 21 год ён пераехаў з Горак у Маскву, вывучыў англійскую мову, прайшоў шлях ад асістэнта да фінансавага дырэктара і паступіў у Маскоўскую школу кіравання «Сколкава».

Ён першым у Расіі стаў усталёўваць у кватэрах адзінокіх пенсіянераў так званыя «кнопкі жыцця». Калі сталы чалавек адчувае сябе дрэнна, яму не трэба дабірацца да тэлефона і званіць у хуткую дапамогу, а дастаткова аднойчы націснуць на кнопку на бранзалеце ў сябе на руцэ. Выклік у кол-цэнтр дапамогі будзе перададзены і пры спрацоўванні датчыка падзення.

Ідэю стварэння «кнопак жыцця» Дзмітрый Юрчанка пазычыў падчас стажыроўкі ў Масачусецкім тэхналагічным інстытуце. Гадавы зварот такога рынку ў ЗША дасягае $1,5 мільярда.

У сярэдзіне 2011 года расійская рэдакцыя бізнэс-часопіса Forbes аб'явіла конкурс «стартапаў» — патэнцыйных камерцыйна паспяховых праектаў. Адным з удзельнікаў стаў Дзмітрый. На працягу дзевяці месяцаў чытачы выдання сачылі за тым, ці ўдасца яму рэалізаваць ідэю. Падсумоўваючы вынікі, журы прысудзіла праекту «Кнопка жыцця» другое месца. Ён саступіў толькі ідэі паставак экалагічных фермерскіх прадуктаў у гарады.

З пачатку працы прыбытак Юрчанкі ўжо дасягнуў $45 мільёнаў. «Але галоўнае не гэта, — кажа ён. — Мы ўратавалі як мінімум чатыры жыцці людзей сталага веку». У далейшых планах кампаніі — распрацоўка «кнопак жыцця» для дзяцей.

**ЯМ**



Дзмітрый Юрчанка.

FORBES

**Абсталяванне каштуе 2,7 мільёна рублёў, а абаненцкая плата — яшчэ па 270 тысяч штомесяц**

# Японцы вынайшлі ўнітаз, які адбівае пенальці

Канструктары робатаў здзівілі свет абсалютна непатрэбным вынаходствам.

Японцы марнавалі свой інтэлектуальны патэнцыял на стварэнне ўнітаза, здольнага замяніць галкіпера ў футбольнай браме.

Навінка пад назвай Super Great Toiler Keeper (Супер Вялікі Туалетны Лавец) прадэманстравала свае ўнікальныя навыкі ў супрацьстаянні з зоркай японскага футбола Тацухіка Куба.



Унітаз забяспечаны камерамі з датчыкамі руху і мінікамп'ютарам, якія дазваляюць яму разлічыць траекторыю палёту мяча за дзясятую долю секунды. Ён вольна круціцца вакол сваёй восі, а для адбівання удараў выкарыстоўвае мячык, што выстрэльвае непасрэдна з клазета.

Гэтае дзіўнае вынаходніцтва — плён сумеснай творчасці дзвюх японскіх кампаній з падобнымі назвамі, але зусім рознай прадукцыяй — вытворцы туалетаў Toto і спартыўныя латарэі Toto.

Такім чынам удзельнікі праекта хацелі паказаць, наколькі сур'ёзна яны ставяцца да аховы навакольнага асяроддзя і берагуць яго.

**Newsru.com**

# N.R.M. не трапіў у фінал «Еўрабачання-2013»

У наступны раунд абраныя дзесяць англамоўных песняў.

Журы вызначыла фіналістаў беларускага адборачнага тура да «Еўрабачання-2013». У лік дзесяці прамежкавых пераможцаў трапілі Макс Лорэнс, Алена Ланская, Аляксей Грос, Дарыя, гурт Nuteki, Сацура, Uzari, Япkey, Віталь Варонка, Beaver Band, паведаміў БелаПАН.

Сваю заяўку на конкурс дасылаў і рок-гурт N.R.M., які цяпер выступае без Лявона Вольскага. Сённяшні фронтмэн гурту Піт Паўлаў быў пэўны, што іх песня «Кузнічка» пройдзе адбор. Але журы аддало перавагу фарматнай «папсе».

Імя беларускага ўдзельніка «Еўрабачання» стане вядома 7 снежня падчас фінальнага шоу, якое будзе трансляваца ў простым эфіры тэлеканала «Беларусь-1». Пераможца вызначыцца па традыцыйнай формуле згодна з правіламі конкурсу «Еўрабачанне»: па выніках галасавання гледачоў і ацэнак журы.

Само ж «Еўрабачанне-2013» пройдзе ў маі будучага года ў Швецыі ў горадзе Мальмё.

**СМ**

## Сцісла

**«Белавія» запускае анлайн-рэгістрацыю**

Новая паслуга ўжо даступная клієнтам на сайце авіякампаніі. Рэгістрацыя пачынаецца за 22 гадзіны і сканчваецца за 2 гадзіны да часу вылету па раскладзе. Магчымасць зарэгістравацца з мабільнага тэлефона з'явіцца ў наступным годзе.

**Новы хостэл у Мінску**

Па адрасе Максіма Танка, 24 адкрыўся хостэл Art traveler. Турысты змогуць жыць на пятым і мансардным паверхах жылога дома. Тут прадугледжана 5 нумароў для 25 чалавек. Начлег у Art traveler будзе каштаваць $15—16.

**Мільён на экспедыцыю**

Беларускі бізнэсоўца Віктар Кіслы, які зарабіў грошы на камп'ютарных гульнях, вырашыў прафінансаваць пошукі на тэрыторыі М'янмы самалётаў «Спітфайр». Мяркуецца, што ў канцы Другой сусветнай вайны яны былі захаваныя менавіта там. Брытанскія знішчальнікі маглі захавацца ледзь не ў ідэальным стане.

**ЯМ**

Здароўе

# У аптэках з'явіцца жаночая віягра

Спрэй зможа вырашыць праблемы каля траціны жанчынаў.

Канадскія навукоўцы паведамілі, што скончылі працу над жаночым аналагам віягры — сродку, які ўзмацняе сэксуальнае ўзбуджэнне і павышае задавальненне ад сэксу. Цяпер гэты сродак праходзіць клінічныя выпрабаванні, і калі даследчыкі не знойдуць у ім нічога небяспечнага, жаночая віягра паступіць у аптэкі.

Распрацоўшчыкі кажуць, што ў склад прэпарату ўваходзіць тэстастэрон — менавіта ён дапаможа жанчынам 30—40 гадоў, якія стаміліся ад руціннага шлюбнага сэксу, вярнуць свежасць адчуванняў.

Сродак будзе выпускацца ў выглядзе спрэю, які неабходна выкарыстоўваць за некалькі гадзін да сэксу. На думку навукоўцаў, новыя лекі не вырашаць усіх праблем, але траціне жанчын будуць карыснымі.

**Limon.ee**



Міліцыянты дапамагаюць прыбіраць капусту пад Мінскам, у сельгаспрадпрыемстве непадалёк ад Кургана Славы.

СЯРГЕЙ БАЛАЙ, «САЛІДАРНАСЦЬ»




На жалобную акцыю КХП-БНФ у Лошыцу прыйшло 100 чалавек. Лошыцкі яр — урочышча, дзе органы НКУС у 1937–1941 гадах праводзілі масавыя расстрэлы. Колькасць ахвяраў застаецца невядомай. У 1988 яр засыпалі, а на яго месцы збудавалі гаражны кааператыў.

УЛАДЗЬ ГРЫДЗІН



ВОЛЬГА ГАРАНЧЫК

Вечарам 3 лістапада ў ГУМе прайшла «ноч зніжак». З 21:00 да 00:00 там дзейнічала зніжка ў 50%, але не на ўсю цану тавару, а толькі на нацэнку. І хоць сапраўдная зніжка складала 12%, рэкламны ход зрабіў сваю справу.




У адным з прыватных дзіцячых садоў Руставі (Грузія) усталявалі сапраўдны Як-40. Уладальнік саду Гары Чапідзэ набыў спісаны самалёт авіякампаніі Georgian Airways у Тбілісі і даставіў яго ў Руставі, дзе на працягу некалькіх месяцаў Як-40 адрэстаўравалі і зрабілі ў салоне пакой для гульняў, пакінуўшы некранутай кабіну пілотаў.

## Анекдоты

* * *

Баязлівы Робін Гуд падглядваў за багатымі і расказваў пра іх бедным.

* * *

Пазняк: У Беларусі няма сапраўднай апазіцыі.

Сапраўдная апазіцыя: У Беларусі няма Пазняка.

* * *

Ніколі нікому не кажы, што ўмееш пераўсталёўваць Windows.

* * *

Усё што нас не забівае, робіць нас беларусамі.

* * *

— Сынку, на вуліцы халодна — накінь штО!

— Абыякавы да падобных парадаў выраз твару, напрыклад?

* * *

Калі бачу дзяўчын, што перастараліся з касметыкай, адразу хочацца накрэмзаць у іх на твары пальцам, як на аўто: «Памый мяне!»

* * *

Зайшла дзяўчына ў краму. Прадавец, усміхаючыся, пытаецца:

– Чаго дзяўчына хоча?

– Дзяўчына хоча «Марціні», але прыйшла яна за хлебам...

* * *

– Вы ведаеце, калі вас няма, пра вас такое кажуць ...

– Перадайце ім, што калі мяне няма, яны могуць мяне нават біць.

* * *

– Я здрадзіла мужу. І ў дзень сваёй смерці я яму пра гэта раскажу.

– А ты ведаеш дзень сваёй смерці?

– Так. Гэта будзе дзень, калі я яму пра гэта раскажу.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У прэзідэнты Амерыканскіх Злучаных Штатаў** выбраны Вудра Вільсан.

**«НН». №43—44. 1912.**

**Штурм «Норд-Оста».** Падзеі вакол захопу чачэнскімі баевікамі амаль тысячы закладнікаў у Маскве застаюцца ў цэнтры ўвагі свету. Чачэнцы не былі падобныя да прафесіяналаў: яны дрэнна арганізавалі абарону будынка, не кантралявалі падземных камунікацый, былі слаба падрыхтаваныя ў сапёрнай справе. На роўных з расейцамі ваявала старэйшае пакаленне чачэнцаў, якое прайшло праз савецкае войска. Яно фактычна перамагло ў вайне 1994 — 1996, але на сённяшні час амаль усё пагінула. Бараеўцы — дзеці вайны. І дзейнічаюць яны як дзеці вайны.

**«НН». №41. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснік галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8090. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 6.11.2012.
Замова № 5090.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614